PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 24 (1883) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 14 ЧЭРВЕНЯ 1992 г. ЦАНА 1500 зл.



*РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ. Вёска Ганчары.* *Фота Міколы Гайдука*

## НЯМА НІЯКАЙ ПАГРОЗЫ

**Сёння ў Рэчыпаспалітай беларускае школьніцтва можа развівацца лепш, чымсьці калі-небудзь раней, - сказаў у размове з нашым журналістам куратар асветы і выхавання ў Беластоку ПЁТР ЛІТЭРМУС.**

*- Спадар куратар, як Вы ацанілі б стан школьніцтва ў нашым ваяводстве?*

- Цяпер рыхтуемся да новага навучальнага года. Не маем яшчэ, пакульшто, ніякіх распараджэнняў зверху ні адносна праграм навучання, ні адносна гадзін працы настаўнікаў. Тое, у чым мы цяпер знаходзімся, гэта толькі праекты, якія, аднак, мусяць вырашыцца цэнтрам. Толькі тады зможам мы ўстанавіць дакладную лічбу школ, як і патрэбных настаўнікаў.

*- А як Вы параўналі б матэрыяльную базу нашых школ з іншымі ваяводствамі?*

- Такіх параўнанняў няма. Але мне здаецца, што ў нас сітуацыя лепшая чым у суседніх ваяводствах. Нядаўна, напрыклад, пісала прэса, гаварыла радыё, што ў Ломжынскім ваяводстве не хопіць месцаў у сярэдніх школах. Мы, хаця з цяжкасцю, але гарантуем месцы навучання ўсім выпускнікам пачатковых школ. Дрэнна выглядае справа самых школьных будынкаў - у 75 працэнтах з іх трэба было б правесці капітальныя рамонты. Не робім таго па простай прычыне - няма грошай. Абмяжоўваемся толькі самымі неабходнымі наладамі.

*- А як Вы бачыце сітуацыю ў навучанні беларускай мовы?*

- Беларускае школьніцтва, па-мойму, цяпер стабілізавалася. Не пабольшваецца і не змяншаецца колькасць школ з гэтым прадметам навучання. Апошні закон, які надрукаваны ў 34 нумары «Дзённіка законаў Польскай Рэчыпаспалітай», як быццам бы санкцыянуе тое, што было і дае магчымасці развіцця.

*- Ініцыятыва тут павінна выйсці, як разумею, ад бацькоў.*

- Так, ініцыятыву павінны праявіць нацыянальныя меншасці, якія хочуць захоўваць і развіваць свае традыцыі, сваю культуру, навуку і г.д.

*- А калі б у Беластоку сабралася адпаведная група бацькоў і яны запатрабавалі б для сваіх дзетак навучання беларускай мовы, хто тады дасць педагагічную кадру? Ці Кураторыя распараджаецца настаўнікамі беларускай мовы?*

- Да гэтай пары на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства такую кадру маем. У Беластоку, дарэчы, вядуцца цяпер намаганні, каб ад новага года адчыніць у 10-тым агульнаадукацыйным ліцэі клас з беларускай мовай як дадатковым прадметам. Як будзе гэтае школьніцтва развівацца ў будучыні, цяжка сказаць. Трэба было б падбаць пра пастаянны прыток кадры, адчыніць беларускую філалогію ў Беластоцкім філіяле Варшаўскага універсітэта. Зразумела, калі будуць ахвотныя вучыцца на такім факультэце.

*- Адно з прыярытэтных заданняў беларускага школьніцтва на сённяшні дзень, гэта пабудова новага ліцэя ў Гайнаўцы. Ёсць ужо згода Міністэрства нацыянальнай адукацыі, як і датацыі.*

- Міністр Стэльмахоўскі праслаў мне такое пісьмо, у якім сцвярджае, што на пабудову гэтага ліцэя прызначыў ён 20 мільярдаў злотых. Зразумела, не ўсе адразу, у гэтым годзе. Паводле сённяшніх цэн ліцэй мае каштаваць 28 мільярдаў. Думаю, што будзе ён пабудаваны не хутчэй як за 2-3 гады. Можа міністэрства яшчэ штосьці далажыць. На гэты год прызначаецца, пакуль толькі на паперы, 5 мільярдаў злотых. Калі пачнецца пабудова, міністр будзе абавязаны яе падтрымліваць. Цяпер вырашаюцца тэхнічныя справы, між іншым, хто, якое прадпрыемства, стане будаўніком. Аднак трэба памятаць, што пісьмо з абяцанай фінансавай дапамогай гэта адна справа, а зусім другая, як і калі гэтыя грошы будуць прыходзіць.

*- Пачатковая школа н-р 3 ў Бельску-Падляшскім - самая вялікая, дзе вядзецца навучанне беларускай мовы*

працяг на стар. 4

## САБАКА НА СЕНЕ

У гэткай сітуацыі, як мне бачыцца, апынуўся Прэзідыум ГП БГКТ, які два месяцы таму забраў з рэдакцыі „Нівы" камп'ютэрнае абсталяванне, на якім рабіўся набор тыднёвіка. Маўляў, сам не гам, але й іншым не дам... Вядома, тады было спадзяванне, што гэты крок выратуе Таварыства ад пагрозы матэрыяльнай самаліквідацыі. Перавядзем гэтых фраераў з „Нівы" ў будынак на Варшаўскай 11, а потым зробім парадак з „нашым органам", які, падумаць толькі, асмеліўся крытыкаваць кіраўніцтва БГКТ за некампетэнтнасць і брак перспектывы ў зменених палітычна-грамадскіх і эканамічных варунках краіны. Перспектыву Прэзідыум ГП БГКТ убачыў у датацыі для „Нівы", з якой можна было б аплаціць чынш за свой будынак і, хто ведае, ці не ўтрымаць штат хоць аднаго „гэпіста", фармальна запісаўшы яго ў журналісты. Гэтая авантура дала нулявы вынік, і Прэзідыуму трэба вышэй спомненую перспектыву шукаць у іншым месцы. Не абышлося пры ўсім гэтым без ахвяраў, хоць, на шчасце, нябожчыкаў тым разам хроніка беларускага грамадска-(бес)культурнага руху не адзначыла. Але былі меншыя ахвяры, прыкладам, Янка Целушэцкі, некалькідзённы „галоўны" „Нівы" (цяжка сказаць, ахвяра маніпуляцыі завадатараў Прэзідыума ці элементарнага браку самакрытыцызму, ці аднаго і другога разам). Ахвярай сталася і сама „Ніва", якой бэгэкатоўскія ветэраны пасталіся стварыць адпаведна смуродлівую аўру ў асяроддзі і навонкі (непаладкі сярод рэдакцыйнага калектыву, „левыя заказы" графічнага рэдактара, падрыванне польска-беларускіх міждзяржаўных адносін, журналісцкая партыйнасць etc.). Паводле прынцыпу — лупцуй усім, што трапляе пад руку, а вось нехта пахіснецца і

працяг на стар. 4




## РЭЛІГІЙНЫЯ ДЫЛЕМЫ
### Частка XIX

Ніводная з існуючых на Беларусі рэлігій не можа пагардліва адносіцца да беларускай мовы і ніводная з іх не можа не падтрымліваць ідэі незалежнасці Беларусі. Калі нейкае веравызнанне або палітычная групоўка не прызнае Беларусі права на самавызначэнне і суверэннасць, павінна браць пад увагу магчымасць такіх ці іншых абмежаванняў сваёй дзейнасці з боку дзяржавы. Зразумела, што непатрэбны ніякія вернападданніцкія дэкларацыі, а тым больш асабістыя заявы аб лаяльнасці ў адносінах да беларускай дзяржавы, аднак грамадзянская пастава ўсіх жыхароў Беларусі, незалежна ад іх веравызнання і палітычных поглядаў, неабходная.

Думаю, што паасобныя рэлігіі ў Беларусі не схочуць умешвацца ў палітычнае жыццё дзяржавы і абмяжуюць сваю дзейнасць да маральных, этычных і дагматычных праблем.

А вядома, што ў гэтых галінах выступаюць аграмадныя магчымасці дзеяння. П'янства, зладзейства, развал сям'і, наркаманія агарнулі вялікую частку беларускага грамадства. Усе веравызнанні павінны працаваць над тым, каб паменшыць размеры гэтых стыхійных, некантраляваных з'яў. Дзяржава, пакуль што, праяўляе ў гэтых справах толькі сваю бяссільнасць. Вядома, што гэтыя моцна адмоўныя з'явы не толькі не паменшваюцца, але выразна разрастаюцца, усё болей пагражаючы беларускаму нацыянальнаму арганізму. Здаецца мне, што нованароджаная беларуская суверэнная дзяржава не ў стане самастойна не толькі поўнасцю перамагчы, але нават незначна абмежаваць гэтыя грозныя праявы зла. Роля рэлігійных устаноў у аздараўленчым працэсе можа быць вельмі істотная і больш эфектная, чым уся дзяржаўная сістэма спроб адміністрацыйнага ўздзеяння і націску. Аднак, зразумела, што духавенства адыграе гэту пазітыўную ролю толькі тады, калі будзе поўнасцю атаясамлівацца з беларускім патрыятызмам, з беларускай мовай і з беларускай дзяржаўнасцю. Вядома, што не адыграюць такой ролі тыя духоўнікі, якія будуць стаяць на грунце чужой нацыянальнай свядомасці і чужой дзяржаўнасці. Гавару тут аб рэлігіях з уседзяржаўным абсягам, а не аб лакальных веравызнаннях, якія грунтуюцца на нацыянальных меншасцях, і якія могуць абапірацца на іншай, чым беларуская, мове.

Галоўным ворагам, з якім даводзіцца змагацца і беларускай дзяржаве, і палітычным арганізацыям, і веравызнанням ёсць і будзе абыякавасць. Беларускі народ быў на працягу соцень гадоў дэнацыяналізаваны і праяўляецца гэта цяпер у яго абыякавых, а нават непрыхільных адносінах да беларускай мовы, беларускай дзяржаўнасці, да ўсякай рэлігійнасці, а ў апошнім часе і да палітычных груповак. Усе свядомыя беларусы і беларускія ўстановы мусяць супольна дзейнічаць у пошуках імпульсаў, якія вырвуць беларускі народ з летаргічнага сну. Актуальна бадай што адзіным чыннікам, які ўзбуджае людзей да грамадскай актыўнасці ёсць нарастаючая бяда, матэрыяльная нядоля. Гэтая бяда і нядоля могуць вывесці людзей на вуліцы і плошчы. А што можа прыцягнуць людзей у святыні, на сходы беларускіх дэмакратычных партый, на даклады і лекцыі, прысвечаныя нацыянальным праблемам, на спатканні з беларускімі пісьменнікамі і публіцыстамі? Калі гаварыць шчыра, дык я не ведаю. Ведаю толькі тое, што ніхто не мае цудатворнага спосабу, каб выклікаць рашучую радыкальную перамену. Мабыць, патрэбна доўгая напружаная праца ўсіх, у тым і паасобных веравызнанняў.

Мабыць, рамантычныя інспірацыі, спалучаныя з пазітывістычнымі дзеяннямі, разлічаныя на цэлыя гады, могуць прывесці да станоўчага рэзультату. Шокавая тэрапія ўжо праводзіцца. Такой тэрапіяй з'яўляецца абвяшчэнне незалежнасці Беларусі. Яно падзейнічала на ўсіх як фотаўспышка або ўдар перуна. Адны захліс履нуліся радасцю, другія папалі ў смутак. На жаль гэтых другіх, мабыць, болей чым першых. Так ці інакш, усе мусяць працаваць для незалежнай Беларусі. А спор у працы выступае толькі тады, калі яна дружная, калі ў грамадзе ўсе шануюць сябе ўзаемна, калі кожны свабодна можа выказаць сваю думку і грамада выбярэ для рэалізацыі найлепшую з іх. Мусім вызваліцца ад бальшавіцкай катэгарычнасці і нянавісці да поглядаў іншых людзей. Мусім старацца вярнуцца да тых часоў, да якіх уздыхаў у XVII стагоддзі Хведар Еўлашэўскі ў сваім „Дзённіку", гаворачы, што добрыя былі тыя часы, калі людзі розных веравызнанняў сядзелі за адным сталом, прыязна гаманілі і мірна пілі піва.

Зразумела, што сённяшняя рэчаіснасць не заклікае нас да піва, а толькі да доўгага творчага высілку ў карысць незалежнай Беларусі. А Беларусь будзе поўнасцю свабоднай толькі тады, калі ў ёй будуць свабодна дзейнічаць розныя рэлігіі і розныя партыі.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### ЗА АДНАГО ЗАЙЦА ДЗЕСЯЦЬ ДРАЎЛЯНЫХ ДАЮЦЬ

З 25 мая на Беларусі пушчаны ў абарачэнне так званыя разліковыя білеты Нацыянальнага банка рэспублікі. Па сутнасці ў нас з'явіліся свае, нацыянальныя грошы.

Праўда, беларускія рублі пакуль не выціснулі з рэспублікі расейскія. Паранейшаму палова заробку людзям будзе выдавацца расейскімі рублямі. Затое курс беларускага рубля з выявай зайца ў адносінах да старэйшага „драўлянага" брата складае 1 да 10.

### АЧУХАЛІСЯ...

Вярхоўны суд рэспублікі абавязаў Міністэрства юстыцыі зарэгістраваць партыю камуністаў Беларусі (ПКБ). Новыя-старыя камуністы збіраюцца абараняць інтарэсы работнікаў наёмнай працы і плануюць пабудаваць на Беларусі бяскласавае грамадства. Праўда, ажыццяўляць свае мэты на гэты раз камуністы абяцаюць мірным шляхам.

І яшчэ. Як заявілі на судзе лідэры новых камуністаў, ПКБ з'яўляецца пераемніцай лепшых традыцый забароненай КПСС-КПБ. Што ж датычыць маёмасці, нарабаванай камуністычным монстрам падчас свайго праўлення на Беларусі, то ПКБ пакуль не прад'яўляе сваіх прэтэнзій.

### ЗНОЎ УЛІК І КАНТРОЛЬ

Парламент Беларусі стварыў нядаўна новы рэвізійны орган — Кантрольную палату. Кола яе абавязкаў бязмежнае. Палата будзе сачыць і за выкананнем бюджэту, і за банкаўскай дзейнасцю, і за ходам прыватызацыі, а таксама за выкарыстаннем сродкаў у розных міністэрствах і ведамствах.

### ПРЭЗІДЫУМ НЕ СПЯШАЕЦЦА

Прэзідыум Вярхоўнага Савета рэспублікі пастанавіў уключыць пытанне аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў праект парадку дня чарговай парламенцкай сесіі.

Вось толькі збірацца на вялікі сход парламентарыі не спяшаюцца. Як стала вядома з кампетэнтных крыніц, чарговая сесія Вярхоўнага Савета Беларусі адбудзецца аж увосень. Так што чакаць нам рэферэндуму хутчэй за ўсё толькі ў канцы года або нават у наступным.

### ДАЛЕЙ АД ГРАХУ

Былы другі сакратар ЦК Кампартыі Літвы Уладзь Швед нядаўна перасяліўся ў Віцебск. Купіў ён у Віцебску чатырохпакаёвую кватэру за 5 тысяч долараў і збіраецца, відаць, назаўсёды асесці на Беларусі. Праблем з грамадзянствам у яго не будзе, бо жонка былога лідэра літоўскіх камуністаў па паходжанню беларуска.

А вось на радзіме ў спадара Шведа шмат непрыемнасцей. Ён абвінавачваецца ў гібелі літоўскіх грамадзян падчас крывавых падзей у Вільні ў студзені 1990 года. Калі ўсё ж суд прызнае віну, то яму давядзецца на пэўны час развітацца з гасціннай Беларуссю.

### СВЯТАРЫ БЕЗ ВІДУ НА ЖЫХАРСТВА

Рэлігійнае адраджэнне на Беларусі апошнім часам пайшло так шпарка, што заканадаўцы вымушаны былі распрацоўваць законапраект „Аб прававым становішчы іншаземных грамадзян і асоб без грамадзянства". А справа ў тым, што з 75 ксяндзоў з Польшчы, якія правяць зараз багаслужэнні ў беларускіх касцёлах, 23 — фактычна знаходзяцца на тэрыторыі рэспублікі незаконна, бо не маюць нават віду на жыхарства.

### ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!

25 мая ў Менску ў Петра-Паўлаўскай царкве ўпершыню на беларускай зямлі была адслужана паніхіда па Максіму Багдановічу. Менавіта ў гэты дзень, 75 гадоў назад у Ялце памёр выдатны беларускі паэт.

Настаяцель прыхода айцец Георгій паведаміў, што з гэтага дня ў царкве штогод будуць спяваць Максіму вечную памяць.

А ў хуткі час у Менску ля дома, дзе калісьці жыў паэт, будзе ўстаноўлены помнік.

### НЕ ЛЮБА — НЕ СЛУХАЙ

У адказ на нядаўнюю рэкамендацыю маскоўскага Інстытута рускай мовы аб аднаўленні назваў Молдавия", „Киргизия", „Белоруссия" старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч пацвердзіў, што беларускі парламент лічыць абавязваючай сваю пастанову аб абавязковай транскрыпцыі слова „Беларусь" іншымі мовамі.

### ПАДРУЧНІК ВЫРАШАЕ ЎСЁ

У дугі раз за ўсю гісторыю Беларускага дзяржаўнага універсітэта на факультэтах, дзе выкладаюць прыродазнаўчыя дысцыпліны, навучанне будзе весціся на беларускай мове. Каля 250 выкладчыкаў універсітэта днямі атрымалі „залік" на курсах па вывучэнню роднай мовы. Аднак паўнацэннаму пераходу на беларускую мову перашкаджае адсутнасць адпаведных падручнікаў і навуковых прац. Таму мяркуецца выдаць у бліжэйшы час некалькі тэрміналагічных слоўнікаў для ўнутрыуніверсітэцкага карыстання.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

* На рэпетыцыі ў „Уліса".
* „Motocross" па-над магіламі.
* Яшчэ адзін Марцінкевіч у беларускай літаратуры.
* Гайнаўскія інвестыцыі.
* Запрашэнне на Лэмкаўшчыну.

**Рэдакцыя тыднёвіка „Ніва" выказвае глыбокае спачуванне нашаму карэспандэнту ПЯТРУ БАЙКО з прычыны напаткаўшага Яго гора — смерці БАЦЬКІ.**

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

Саюз немцаў былога СССР хоча дзейнічаць так, каб рускіх немцаў пакінуць у іх родных мясцінах, — такія заявы прагучалі ў выступленнях дэлегатаў на першым кангрэсе гэтай арганізацыі, які праходзіў у канцы мая ў Маскве. Галоўнай тэмай трохдзённых дэбатаў было ўзнаўленне нямецкіх населеных тэрыторый на Сібіры і Паволжы.

**Згуртаванне літоўцаў у Польшчы** рашуча пратэстуе супраць намеру польскіх уладаў размясціць у Пунску падраздзяленне Гранічнай стражы. Старшыня Згуртавання **Эўгеніюс Петрушкевічус** заявіў, што размяшчэнне ў гэтай мясцовасці вайсковай часці стварае пагрозу для літоўскай грамадскасці. „Прыедуць сюды вайскоўцы з сем'ямі і за некалькі гадоў стануць пасылаць свае дзеці ў пунскі літоўскі ліцэй, і тады літоўская мова зноў будзе неабавязковым прадметам", — мяркуе старшыня і лічыць гэты аргумент самым істотным супраць знаходжання Гранічнай стражы ў Пунску. Пратэст быў разасланы ў трынаццаць устаноў Польшчы і Літвы.

**Агульны сход Праваслаўнага брацтва св. св. Кірылы і Мяфодзія** адбыўся ў Беластоку. Члены брацтва падсумавалі трохгадовую дзейнасць, намецілі кірункі далейшай працы і перавыбралі ўлады. Старшынёю паўторна быў выбраны праф. **Міхал Малафееў**. Падчас сходу даклад на тэму сітуацыі Праваслаўнай царквы і экуменізму ў сённяшнім свеце прачытаў архіепіскап **Ерэмія**.

**Пад лозунгамі**: „Усе мы негры Лос-Анжэлеса" і „Сёння Лос-Анжэлес — заўтра Варшава" праходзіў пратэст трыццаці маладых анархістаў перад пасольствам ЗША ў Варшаве. Паводле меркаванняў дэманстрантаў „усе мы памалу становімся неграмі ў Лос-Анжэлесе, якія жывуць у недастатку сярод раскошных гасцініц і бліскучых супер-маркетаў". Паводле іх „ЗША у афіцыяльнай прапагандзе заняло месца СССР".

ЛІТАРАТУРНЫ СЕМІНАР „БЕЛАВЕЖЫ"

# СУСТРЭЧА Ў СКАНСЕНЕ

Беларускаму літаратурнаму аб'яднаню „Белавежа" споўніцца неўзабаве трыццаць чацверты год дзейнасці. Вось 16 і 17 мая г.г. члены і сімпатыкі аб'яднання сустрэліся на традыцыйным, выязным семінары, які Управа „Белавежы" ўпершыню арганізавала ў Музеі сельскай гаспадаркі імя Яна Кшыштофа Клюка ў Цеханоўцы. Дагэтуль месцам літаратурных сходаў, як бы святочных, была найчасцей Белавежа, прыгожы пушчанскі ні то гарадок, ні то вёсачка, імем якой ахрысцілі пісьменнікі свой гурт. Змяняецца ўсё навокал, дык і „белавежцы", відочна, пастанавілі спалучыць з традыцыяй новыя элементы часу і прасторы. Іх зацікавіў Цехановец і тамашні Музей, вядомы сваёй гаспадарнасцю, чысцінёй і дынамічным культурным жыццём, аб чым часта піша таксама і цэнтральны друк. Гэта ўсё дзякуючы шматгадоваму дырэктару музея Казіміру Ушынскаму. Дзякуючы яго пасіі і працавітасці цеханавецкі скансэн і сённяшні яго росквіт сталі фактам. Варта тут падкрэсліць зычлівасць дырэктара Музея да беларусаў, да іх культуры. Іменна ў выставачных залах цеханавецкага музея была наладжана першая персанальная выстаўка жывапісу Тамары Тарасевіч; яе працы ведаюць не толькі ў Беларусі, але таксама ў Амерыцы і Францыі. З Цеханоўца яе выстава пераехала ў Гайнаўскі музей і адтуль ужо карціны белавежскай мастачкі раз'ехаліся на Усход і на Захад.

На тэрыторыі цеханавецкага скансэна, апрача помнікаў польскай матэрыяльнай культуры, захоўваецца беларуская хата з яе нутраным абсталяваннем, перавезеная сюды з Сакоў. А ў цеханавецкім Музеі знаходзяцца таксама — перахоўваныя праз многія гады — экспанаты беларускай матэрыяльнай культуры. Апісаныя, зарэгістраваныя ды належна забяспечаныя чакаюць яны на этнографа з беларускага музея ў Гайнаўцы.

Варта ўспомніць і аб асабістых кантактах, сяброўстве, аб супольнай дзейнасці для культуры, якая не хоча ведаць ніякіх граніц. Старшыня „Белавежы" Ян Чыквін бывае частым госцем Музея ў Цеханоўцы. Разам з дырэктарам К. Ушынскім яшчэ ў гэтым годзе плануюць паказаць польскім гледачам лепшыя працы адной з цікавейшых мастачак маладога пакалення з Гародні. У бібліятэцы Музея, побач з фаховымі кнігамі, маюцца і тамы прыгожага пісьменства уключна з паэтычнымі зборнікамі „белавежцаў".

Значыць, выбар цеханавецкага Музея на месца сустрэчы „белавежцаў" не быў выпадковы. Двухдзённы семінар пачаўся 16 мая ў суботу. Прывітаў гасцей дырэктар К. Ушынскі. У поўнай сонца музейнай зале, пры каве, расказаў ён гісторыю Сельскагаспадарчага музея. А ўсё пачалося ў канцы 50-х гадоў, калі ён, зусім малады выпускнік гісторыі мастацтва Каталіцкага універсітэта ў Любліне вярнуўся на бацькаўшчыну, дзе ледзь змог атрымаць працу... у цеханавецкай малачарні. Але тут можна ўдоваль было марыць. Супольна з іншымі, такімі як ён. Сягоння эфекты іх працы здзіўляюць многіх наведвальнікаў Цеханоўца. І „белавежцы" вельмі зацікавіліся ім. Раней прыязджаў сюды Сакрат Яновіч, які дараджаў К. Ушынскаму пры ўнутранай кампазіцыі беларускай хаты ў скансэне. Надзея Артыморвіч, Міра Лукша, Ян Максімюк, Мікалай Ваўранюк былі тут упершыню.

Пасля абеду „белавежцы" знаёміліся з Музеем і скансэнам. Спадар Антоні Масевіч знакаміты этнограф Музея ў Цеханоўцы, няспешліва, але і не нудна распавядаў аб скансэне і паказваў векавыя экспанаты — стары млын, прылады для пчалаводства, гарбарства, шавецтва, кузню, беларускую хату, паляўнічы і шляхецкі палацыкі, вазоўню, дзе Надзея Артымовіч, першая дама беларускай паэзіі, магла пасядзець у сапраўднай карэце, у той самай якая неаднойчы „іграла" ў польскіх кінафільмах! Затым „белавежцы" наведалі ўнікальны, адзін з найбольш багатых экспанатамі ў Еўропе, Музей ветэрынарыі ды батанічны агарод, які старанліва даглядае знакаміты зёлкавед Лявон Хохлеў. Агарод распарадкаваны паводле праекту апісанага ў творы з XVIII ст. „Dykcjonarz roślinny" Яна Кшыштофа Клюка, вучонага-батаніка з Цеханоўца. Зацікавіла „белавежцаў" — таксама незвычайная пленэрная галерэя скульптуры дзеячоў народнага руху (аўтар Я. Слюсарчык).

Вечар „белавежцы" правялі пры вогнішчы; елі печаныя каўбаскі, распавядалі, успаміналі... „Wtedy w głęboką noc, — напісала мне пару дзён пазней Н. Артымовіч, — (Wy smażyliście się w ognisku) myślalam o was wszystkich. Cofnęłam się o 20-kilka lat, do początku swego grafomaństwa, kilku ludzi i spraw. Jakie to dziwne... Życie to przypadek, zbieg okoliczności, czy coś więcej?".



*Надзея Артымовіч і Сакрат Яновіч у цеханавецкім парку.*



*Ян Чыквін чытае дасланую рэцэнзію Віктара Шведа на альманах „Гасцінец".*

У праграме другога дня семінара былі тры справы. Кароткую справаздачу з працы над кнігай аб беларускай гімназіі ў Рэгенсбургу (Баварыя) склаў Ян Максімюк. Гімназія дзейнічала ад снежня 1945 г. да паловы 1950 г. Дакладчык прадставіў слухачам тагачасныя палітычныя акалічнасці, пры якіх неабходна было тварыць гэту школу на чужыне. Аб школьнай праграме і працы настаўнікаў можна будзе прачытаць дакладна ў ягонай кнізе, якая неўзабаве паявіцца. Другім пунктам была дыскусія над альманахам „Гасцінец" (пад рэд. Г. Валкавыцкага), які пасля васьмі гадоў нарэшце выпусціла беластоцкая KAW. На вялікі жаль, зборнік з'явіўся надта сыры, недапрацаваны. На звыш ста карэктарскіх памылак і шмат іншых недазволеных агрэхаў звярнуў увагу В. Швед. Калі, пасля сігнальных экземпляраў, эдытары не вычысцяць успомненых друкарскіх хібаў, „Гасцінец" проста праваліцца. Адно, што ў ім ужо зараз прыгожае гэта графічнае афармленне вокладкі і суперокладкі Стэфанам Рыбім.

У трэцім пункце ішла гутарка аб падрыхтоўцы да юбілею 35-годдзя „Белавежы". С. Яновіч запрапанаваў выпусціць поўную бібліягра фію аб'яднання, накшталт той ранейшай „Хронікі „Белавежы". Была таксама прапанова выдаць анталогію аднаго твора „белавежцаў". Яна дала б уяўленне пра гісторыю літаратурнага аб'яднання. Яна вырвала б з забыцця многія імёны таленавітых беларусаў, якія ў свой час мільганулі на старонках „Нівы" прыгожымі радкамі, але — з розных прычын — замаўчалі.

Затым старшыня аб'яднання Ян Чыквін паінфармаваў прысутных аб выдавецкіх планах „Белавежы". Яшчэ ў гэтым годзе рыхтуюцца да друку зборнікі Ю. Генюша, Л. Генюш, М. Лукшы і альманах маладых. Грошай на гэта хоць ты плач. Але пісьменнікі вераць у шчодрасць беларускіх мільярдэраў-спонсараў.

Развітваліся „белавежцы" з гасцінным Музеем цёпла. Ад'язджалі ўсхваляваныя, ведаючы, што з двух дзён, праведзеных тут, у ціха-прыгожым закутку мазавецкай зямлі, яны вернуцца ў штодзённшчыну. Некаторыя з пісьменнікаў захапілі з Цеханоўца галінкі любчыку, як прызнак таго, што сюды вернуцца.

**ТЭРЭСА ЗАНЕЎСКАЯ**

**21 чэрвеня (нядзеля)**

# СВЯТА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

**У нядзелю, 21 чэрвеня** бягучага года ў беластоцкім амфітэатры пры вуліцы Каліноўскага адбудзецца **Свята беларускай культуры**, якое арганізуе Галоўнае праўленне БГКТ. У праграме вялікі канцэрт у выкананні мастацкіх калектываў з Рэспублікі Беларусь: фальклорнага „Гарадніца" з Гародні і песні і танца „Перамога" з Бераставіцы, а таксама ўдзельнікаў цэнтральных элімінацыяў конкурсу „Беларуская песня '92" з Беласточчыны, Варшавы і Гданьска. Пачатак мерапрыемства а гадзіне 14.

З нагоды ўспомненага святкавання адкрыта будзе выстаўка прац народных творцаў — мастакоў і разьбяроў, адбудзецца сустрэча з членамі Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" (будзе нагода атрымаць аўтограф), а таксама кірмашы.

Адным словам, прыемна, што ізноў пачуюцца родныя песні, а яны ж прыносяць і сардэчнае цяпло, і прыхільнасць да свайго, а некаторым і жаль, тугу, што прайшла маладосць. Беларускае грамадска-культурнае таварыства запрашае ўключыцца ў арганізацыю Свята ўсіх ахвотных. Пажаданы спонсары. Кантактавацца па тэлефону 435-118 у Беластоку.

**ЯСЕНЬ**

# КАМБІНАЦЫІ ПРАФЕСАРА З КЛЯШЧЭЛЯЎ

У Беластоцкім краі з'явіўся яшчэ адзін часопіс, у гэты раз украінскі: «Над Бугом і Нарвою», пераважна на польскай мове. Шэфуе яму Мікалай Рашчэнка з Кляшчэляў, выкладчык універсітэта ў Любліне. Пад так інтэлігентным кіраўніцтвам, здавалася б, недапушчальнымі будуць усякія глупствы ў выданні... Тым часам бельска-кляшчэлеўская рэдакцыя «Над Бугом і Нарвою» не пашкадавала сабе выпісацца ў антыбеларускай дэмагогіі і ў камбінаваных паўпраўдах, цалкам свядома разлічваючы на нізкую свядомасць звычайнага, мястэчковага, чытача, начэпліва ўгаворваючы яго затым быць украінцам.

Каманда Рашчэнкі добра разумее, што ўкраінскіх цудаў, аднак, тут не будзе, а трэба неяк жыць з беларускімі і польскімі дзеячамі. Заклікае да паразумення. Але, як? - відаць тое на прыкладзе інтэрпрэтацыі майго выступлення «Палешукі - беларусы ці ўкраінцы?», апублікаванага два гады назад у штоквартальніку «Дыскусія», які выдаваў тады Ваяводскі дом культуры ў Беластоку. Інтрэпрэтуе мае думкі наконт палешуцкага ўкраінства не якісьці паўінтэлігентны павятовы журналіст, а сам гэты прафесар. Прачытаўшы ягонае - на стар. 22 і 23 - зрабілася мне сорамна за тытуляванага кляшчэлеўца: бракуе яму, можа быць, не столькі гістарычных ведаў пра мінулае рэгіёна, а проста маральнасці! Несумленна, па-камбінатарску, перадаў ён чытачу «Над Бугом і Нарвою» змест таго майго тэксту, выхопліваючы кавалачкі фразаў для мацавання сваёй тэзы пра этнічна ўкраінскі характар бугска-нараўскай тэрыторыі.

Прызнаюся: не спадзяваўся я па ім такога халопства!

Што ж пісаў я ў 1990 годзе, будучы запрошаным да ўдзелу ў размове пра нашых тут украінцаў? А тое, менавіта, што нацыянальнасць чалавека вызначае ён сам, і ніхто акрамя яго. Па-другое, нацыянальнае пачуццё фармуецца гістарычным лёсам, а не мовай /напрыклад, на нямецкай размаўляюць аўстрыйцы, швейцарцы, люксембургцы, а нават французы на поўначы, ну, і, вядома, самі немцы; не кажу ўжо пра англамоўныя нацыі/. Па-трэцяе, гаворкі Бельшчыны ёсць тыповыя для стыку роднасных народаў, паміж якімі ніколі не бывае вострай мяжы; яны беларускія і ўкраінскія адначасна, як бачым тое ў паўукраінскай Кубані ці на паўрускай Смаленшчыне /там і там адны лічаць сябе рускімі, іншыя ўкраінцамі; беларусамі - пад тым жа Смаленскам/. І гэта нармальнае. Я не супроць, каб Рашчэнка ды яго прыхільнікі адкрылі сябе небеларусамі. Калі ласка, спадарове! Але будзь це ж вы настолькі цывілізаванымі людзьмі, каб не кідацца ў агрэсіўны нацыяналізм.

Прапануеце дыялог з намі, беларусамі... Не, на гэта я, асабіста, не пайду, бо вы нелаяльна вядзеце сябе ў дачыненнях з партнёрам. Па-спекулянцку абдурваеце, каб толькі ваш верх быў! Мяне цікавіць сумленнасць думкі і інтэнцыі, а не тэхніка інтэлектуальнага разбою, а фактычна - палітыканства, г.зн. рабіць кагосьці шулерам пад выглядам нібы аргументаванай палемікі; перайначваць факты, перакрычаць.

Пашукайце роўных сабе.

І каму вы, урэшце, гарбату салодзіце?

САКРАТ ЯНОВІЧ



## Фота–вітрына

*Вятрак з 1920 г. на Выгодзе каля Гайнаўкі*

# САБАКА НА СЕНЕ

*працяг са стар. 1*

ўпадзе. Калі ўжо хто тут упаў, дык толькі таварышы з Прэзідыума. І то вельмі нізка ўпалі...

Хацелася б мне тут памыліцца ў сваіх прадчуваннях, але выказаць іх трэба — гэты захоп камп'ютэраў, хутчэй за ўсё, знойдзе свой эпілог у судзе. Хіба што ў некага з бэгэкатоўскіх „рэфарматараў" тлее яшчэ нейкая рэштка рацыянальнасці, якая супрацівіцца татальнаму скандалу.

Справа з камп'ютэрамі выглядае такім чынам, што іхняе забранне з рэдакцыі на падставе пастановы Прэзідыума з'яўляецца дзеяннем **беззаконным**. Камп'ютэры не прыналежаць ні Прэзідыуму, ні Рэвізійнай камісіі ГП БГКТ, ні, тым больш, якой-колечы прыватнай асобе. У запісе датацыі, якую БГКТ напрыканцы 1990 г. атрымала ад дзяржавы, выразна адзначана, што 1 мільярд 200 мільёнаў злотых (звыш 100 тысяч долараў на той час) перадаецца на арганізаванне выдавецкай базы беларускага грамадска-культурнага руху. Палова гэтай сумы, можна пагадзіцца, была скарыстана дзеля гэтай мэты (закуп камп'ютэраў, якія ўжо два месяцы гэтай мэце не служаць). Другая палова была пушчаная на матэрыяльнае ўтрыманне БГКТ — ніякай выдавецкай базы не атрымалася. Хто за гэта адкажа? Няўжо „Ніва", выдаванне якой складала на працягу апошняга года 95% выдавецкай актыўнасці беларускага руху? Альбо Беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавежа", якое за апошніх паўтара года выдала шэсць кніжак, не карыстаючыся грашамі з бэгэкатоўскага рахунку? Атрымліваецца відавочны абсурд: прыкладам, „Белавежа" або Беларускае аб'яднанне студэнтаў — гэта не беларускі грамадска-культурны рух, і трактуецца гэтыя формы арганізаванай актыўнасці як абсалютна вонкавыя, якія павінны плаціць БГКТ (за магчымасць карыстання камп'ютэрамі ці памяшканнямі). А чаму б не плаціць за гэткія камп'ютэрныя паслугі „Белавежы", БАСу альбо „Ніве"? Не толькі БГКТ патрабуе грошай.

Так што ўсё гэта закончыцца, мабыць, яшчэ большым скандалам, чымсьці некаторым спачатку здавалася. Не можа трываць такі стан, калі некалькі заюшаных старэчаў і пенсіянераў уяўляе сабе, што вакол іх круціцца ўсё і ўсе, і калі іх не стане, то свет заваліцца. Нічога такога не станецца; не завалілася выдаванне „Нівы", не заваліцца і беларускі рух без Прэзідыума. Праўда, заваліліся некалькі неблагіх магчымасцяў таго руху, якія адчыніліся пасля гэтай шчодрай дзяржаўнай датацыі. Нанава стварыць тыя магчымасці не будзе лёгка, але адно ўжо абсалютна яснае — разам з далакопамі можна абсправіць адно пахаванне і хаўтуры, а не штосьці больш аптымістычнае.

ЯН МАКСІМЮК

*працяг са стар. 1*

*- адчувае значны матэрыяльны недастатак. Гэта адзіная школа ў горадзе без гімнастычнай залы, якой будова цягнецца ўжо ладных пару гадоў...*

- Ну, не толькі гэтая зала так доўга будуецца. Так марудна будуем 40 аб'ектаў, напрыклад комплекс механічна-электрычных школ у Беластоку - ад 1986 года. Не хапае грошай. У гэтым годзе на залу ў «тройцы» адведзена, здаецца, 300 мільёнаў злотых. Будзе можна нешта зрабіць, хаця гэтага замала, каб пабудову закончыць.

*- Апрача гімнастычнай залы, у школе яшчэ вялікія клопаты з дыдактычнымі памяшканнямі.*

- Па просту, Бельск адчувае вялікі недахоп месцаў у пачатковых школах. Вы пэўна ведаеце або хаця чулі, што ў гэтым горадзе была будаваная школа, але паставілі яе ў дрэнным месцы, на неадпаведным падмоклым грунце. Будову давялося спыніць, грошы пайшлі на затрату і на новую школу сродкаў ужо не было. Цяпер сітуацыя крыху палепшыцца, бо ідзе разбудова Пачатковай школы н-р 4. Бельск развіваецца хутчэй, чымсьці мы паспяваем будаваць школы.

*- Пасля заканчэння новага аб'екта Пачатковай школы н-р 4 «тройка» апынецца ўжо выразна ў найгоршым становішчы.*

- Я праблему беларускага школьніцтва ў Бельску бачу крыху інакш, чымсьці дырэктар Пачатковай школы н-р 3. Калі будзе такая патрэба, у кожнай з пачатковых школ горада можна адчыніць класы з беларускай мовай.

І праблема вырашыцца сама, дарэчы, згодна з распараджэннем міністра нацыянальнай адукацыі.

*- У Пачатковай школе н-р 4 калісьці беларуская мова ўжо навучалася. Аднак колькасць дзяцей з году ў год змяншалася, аж да поўнай ліквідацыі гэтага прадмета.*

- Мы мусім прытрымлівацца законаў. У Бельску няма школы з беларускай мовай навучання, ёсць толькі школа з дадатковым прадметам. Калі на гэта так глянуць, дык кожная школа ў горадзе можа ўвесці беларускую мову як дадатковы прадмет. І не будзе тады ніякіх праблем. Я супраць таго, каб тварыць нейкае гета. Кожнае дзіця

# НЯМА НІЯКАЙ ПАГРОЗЫ

павінна вучыцца беларускай мове найбліжэй свайго дому. Ёсць дзеля гэтага варункі і ў старых школах, і ў новастворанай «пяцёрцы». Гэтага дастаткова. У іншым выпадку нам давялося б адчыніць яшчэ адну такую замкнёную ў сваім крузе школу, але гэтага рабіць не трэба.

*- Не думаю, каб «тройка» была школай замкнёнай. Але Вы, спадар куратар, адкрылі даволі кур'ёзную, трохкласную школу...*

- У мяне ёсць права адчыняць, як і зачыняць школы. Згодна з законам.

*- Я не аспрэчваю Вашых правоў, толькі хачу запытацца, на чыю просьбу Вы стварылі новую школу. Паколькі*

# НАШЫ КАРАНІ

### XXXVI. У ВІРЫ ПАМКНЕННЯЎ

Пастырская дзейнасць мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі Кіпрыяна /1375-1406 г.г./ выпала на цяжкі ўнутрыдзяржаўны крызіс у Беларускай дзяржаве /Вялікім княстве Літоўскім/, які балюча закрануў таксама і землі сённяшняй Беласточчыны. Пакарысталіся ім крыжакі: яны многа разоў находзілі на заходнія землі Беларусі, а іхнія «райзы» /паходы/ атакавалі нават Бярэсце і Наваградак, знішчаючы ўсё на сваім шляху. Гэта былі часы амаль дзесяцігадовага крывавага змагання Кейстутавічаў з Альгердавічамі з панаванне на віленскім вялікакняскім пасадзе, часы Крэўскай уніі, пераходу праваслаўнага вялікага князя Якава-Ягайлы ў каталіцызм, ягонае вянчанне на польскага караля. Тады таксама праваслаўны князь Юры-Вітаўт прыняў каталіцызм і дамогся панавання ў Беларускай дзяржаве.

У гэтым кровапралітным і руйнуючым беларускія землі, у тым і нашу Беласточчыну, вадавароце наступалі для Праваслаўнае Царквы і яе веруючых нялёгкія часы. Ягайла, каб утрымацца на каралеўскім троне, а Вітаўт, каб замацавацца на вялікакняскім пасадзе і ў будучыні сягнуць па каралеўскую карону - яны абодва шукалі падтрымкі ў Апостальскай сталіцы і каталіцкіх каралеўскіх дварах. Дзеля гэтага намагаліся паказаць сябе руплівымі і ахвярнымі пашыральнікамі каталіцызму, заахвочвалі і нярэдка прымушалі сваіх родзічаў, іншыя княжацкія роды, дваранаў, баярства пераходзіць з праваслаўя ў каталіцызм, хрысціці ў каталіцкую веру язычнікаў-летувісаў. Заснавалі на Беларусі і паскорана разбудоўвалі Каталіцкі Касцёл, абсыпаючы яго надзвычай шчодрымі прывілеямі і маёмаснымі наданнямі. Баяраў-католікоў Вітаўт і Ягайла абдароўвалі маёнткамі, правамі, ільготамі і высокімі дзяржаўнымі пасадамі. Урэшце ўзвялі каталіцкае веравызнанне ў дзяржаўную рэлігію. Усё тое вяло да паніжэння Праваслаўнае Царквы і праваслаўнага насельніцтва. Да іх кароль і вялікі князь ды іхнія чыноўнікі адносіліся як да веры і людзей ніжэйшай, горшай катэгорыі, хаця праваслаўныя былі асноўным насельніцтвам краіны. Надыходзілі надзвычай непрыхільныя для Праваслаўнай Царквы часы. Паглыбляў гэты стан той падзел і спрэчкі за духоўную ўладу ва ўсёй Усходняй Славяншчыне, якія доўгія дзесяцігоддзі цягнуліся паміж мітрапалітамі маскоўскім і наваградскім. На шчасце мітрапаліт Кіпрыян, дзякуючы сваёй настойлівасці і незвычайным дыпламатычным здольнасцям, давёў да збліжэння Вітаўта з князем маскоўскім Васілём Дзімітравічам. Не без уплыву мітрапаліта князь Васіль ажаніўся з Вітаўтавай дачкой Софіяй.

Знаёмства беларускай князёўны з маскоўскім княжычам наступіла падчас уцёкаў Васілія з татарскай арды каля 1385 г. Шлях уцекача вёў праз Луцк, дзе тады прабывала Вітаўтава сям'я. Маладыя людзі падабаліся адно другому, але бацька княжыча, вялікі князь маскоўскі Дзімітрый Іванавіч /Данскі/, не згаджаўся на такую жаніцьбу сына, бо неўзабаве Вітаўт стаў беззямельным «ізгоем» у крыжакоў. Але Васіль быў верны сваім пачуццям, і пасля смерці бацькі і ўзыходу на маскоўскі вялікакняскі пасад, прыслаў да Вітаўта сваіх сватоў. У «Летапісе вялікіх князёў літоўскіх» чытаем: «Таго ж лета /гэта быў 1390 год/ да вялікага князя Вітаўта ў Прусію ў Мар'інград /Мальборк/ прыйшлі паслы з горада Масквы ад вялікага князя Васіля Дзімітравіча і прасілі ў князя вялікага Вітаўта аддаць дачку замуж за вялікага князя Васія Дзімітравіча. Князь жа вялікі Вітаўт аддаў дачку сваю, князёўну Софію, і адпусціў яе з Мар'інграда, а з ёю паслаў князя Івана Альгімонтавіча /Гальшанскага/. З горада Гданьска яны паплылі на караблі па моры і прыехалі да горада Пскова. Псковічы ж выказалі ім вялікі гонар і з пашанаю праводзілі іх да Вялікага Ноўгарада. Ноўгарадцы таксама іх ушанавалі і праводзілі з пашанаю да горада Масквы да вялікага князя Васіля Дзімітравіча. Князь жа вялікі Васіль выслаў насустрач ім з пашанаю братоў сваіх, князя Уладзімера Андрэевіча і Андрэя Дзімітравіча і шмат іншых князёў і баяраў, і сустрэлі вялікую князёўну Софію з вялікаю пашанаю. Тады быў праасвяшчэны мітрапаліт Кіпрыян з архіепіскапамі і епіскапамі, з архімандрытамі, ігуменамі і з усім святарствам, і сустрэлі яе пчэсна з крыжамі перад горадам Масквою. І ўчынілі шлюб пачэсны і павянчалі вялікага князя Васілія Дзімітравіча з вялікай князёўнай Софіяю, і было веселле выдатнае, пашаны годнае, і павесяліліся раскошна».

Мітрапаліт Кіпрыян як мудры архіпастыр давёў да з'яднання амаль на два дзесяцігоддзі абедзвюх мітраполій, пры тым не парушаючы іхняе самастойнасці і незалежнасці. Еднасць Царквы ён узняў па-над дзяржаўнымі падзеламі і спрэчкамі. Гэта выдатна падтрымала Царкву ў Беларускай дзяржаве.

Праваслаўныя іерархі і свецкія веруючыя прымалі пагаршэнне свайго палажэння ў Беларускай дзяржаве з хрысціянскай пакорлівасцю. Стараліся верную і ахвярною дзейнасцю і працай заслужыць на прыхільнасць і ласку пануючага. І ў той цяжкі час быў пры Вітаўце чалавек, які падтрымліваў на духу і ўспамагаў праваслаўных. Была ім жонка князя Вітаўта, вялікая княгіня Анна Святаславаўна /дачка князя смаленскага/, вядомая як заснавальніца некалькіх цэркваў, у тым Свята-Мікалаеўскага сабора ў Бярэсці /Брэсце/.

І Царква і свецкія веруючыя жылі надзеяй, што з бегам часу непрыхільныя адносіны Вітаўта да Праваслаўя зменяцца на лепшае. Нягледзячы на ўсё яны высока цанілі яго як выдатнага дзяржаўнага дзеяча, лічылі, што лепш жыць пад цяжкай Вітаўтавай рукою, чым гібець у татарскім ярме ці ў крыжацкай няволі.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

---

*мне вядома ні з боку Гарадской управы, ні ад ніякага грамадскага органа, такой просьбы не было.*

- Справа была дамоўлена з самакіраваннем Бельска.

*- У мяне ёсць афіцыйны ліст бурмістра, у якім ён сцвярджае, што не заяўляў ніякае патрэбы ў новай школе.*

- Бурмістр не мусіць заяўляць такой прапановы. Стварэнне школ знаходзіцца ў кампетэнцыі куратара асветы і выхавання. Распараджэнне міністра нацыянальнай адукацыі выразна гавораць, што школы трэба ствараць паводле запатрабавання і мы плануем, дзе і што адкрыць.

*- Але хто заявіў аб такім запатрабаванні ў Бельску? Я разумею, што павінна рабіць гэта мясцовая грамадскасць.*

- Абсалютна не. Дзяржава ўвяла школьны абавязак і дзяржава забяспечвае грамадзян школамі.

*- Я яшчэ раз пытаюся, адкуль Вы ведалі пра запатрабаванне ў Бельску якраз на такую школу?*

- У мяне ёсць чыноўнікі, якія палічылі кожнае народжанае дзіця. Паводле гэтага мы і плануем.

*- Новы будынак Пачатковай школы н-р 4 да 1 верасня можа быць не закончаны. А ўжо ў горадзе вядуцца запісы дзяцей у новую школу. Што будзе, калі з гэтага будынка не выйдзе «чацвёрка»?*

- Адкуль?

*- З будынка па камітэце партыі.*

- Будзе новая школа н-р 5, з класамі 1-3.

*- Дзе, калі адтуль не выйдзе школа н-р 4?*

- Як гэта не выйдзе?

*- Ну, калі новы аб'ект Пачатковай школы н-р 4 не будзе закончаны. А так можа здарыцца і гэта вельмі праўдападобна.*

- Калі не выйдзе, тады тэрмін адкрыцця перасунецца.

*- А што з дзяцьмі, якіх бацькі запішуць у новую школу?*

- Там, паводле нашых інфармацый, не будзе ніякіх праблем. Праблему штучна выклікаў дырэктар Пачатковай школы н-р 3.

*- Значыць, Вы не бачыце патрэбным разбудову школы н-р 3?*

- Не, не бачу. Бачу замест таго, магчымасць арганізаваць навучанне беларускай мовы ў іншых школах Бельска.

*- 4 мая Бацькоўскі камітэт «тройкі» звярнуўся да Вас з чарговым лістом-просьбай дапамагчы школе. У адказ Вы назначылі камісію. Што гэта за камісія і што яна вырашыла?*

- Я стварыў камісію са сваіх працаўнікоў. Гэта візітатары: Тамара Русачык, Стэфан Крантоўскі, Аляксандр Казбярук ды кіраўнік аддзела кураторыі ў Бельску Эдвард Хрэн. Камісія яшчэ раз разгледзела матэрыяльную базу школ Бельска-Падляшскага і да 7 чэрвеня павінна прадставіць мне адпаведны рапарт. Я паведаміў Бацькоўскі камітэт, што пасля таго я праананалізую магчымасці адкрыцця класаў з беларускай мовай у іншых школах. Зразумела, для тых, якія гэтага захочуць.

*- Значыць, чарговых пастаноў трэба чакаць пасля 7 чэрвеня. Я хачу закрануць яшчэ адну справу. Вы былі прысутным на спатканні з міністрам адукацыі Рэспублікі Беларусь у Ліцэі імя Б. Тарашкевіча. Адзін з прадстаўнікоў Бацькоўскага камітэта «тройкі» сказаў аб пагрозе для беларускага школьніцтва пасля 1994 года, калі асвета пастаўіцца ў залежнасць ад мясцовых органаў улады. Сваю трывогу абапіраў ён якраз на розных міжнацыянальных канфліктах у Бельску. Пастаўіў затым пытанне, ці Кураторыя, або нават Міністэрства нацыянальнай адукацыі не маглі б абняць сваім патранатам школы, дзе навучаецца беларуская мова?*

- Калі міністр дасць такое распараджэнне, што пачатковыя школы з мовай навучання нацыянальных меншасцяў павінны пайсці пад апеку кураторыяў, тады нічога не будзе гэтаму перашкаджаць. Цяпер няма такіх дакументаў, указанняў, на падставе якіх куратар мог бы вылучаць такія школы. Дарэчы, я не бачу такое пагрозы, што беларускае школьніцтва перастане існаваць, калі асвета пяройдзе ў кампетэнцыю самаўрадаў. Зусім наадварот, яно ў сённяшняй Рэчыпаспалітай можа развівацца лепш, чымсьці калі-небудзь раней. Паўтараю, я ніякай пагрозы не бачу.

*- Мне хацелася б падзяляць Ваш аптымізм. Дзякую за размову.*

Інтэрв'ю ўзяў
**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

---




### РАЗМОВЫ АБ МІНУЛЫМ...

*„А як я гляджу на Гарбачова?"* — пытае Аляксандр Барчшэўскі ў маралізатарскім артыкуле „Размовы аб мінулым і будучым" („Ніва" н-р 11 ад 16 сакавіка 1992 г.) і адказвае без ніякага сумнення: *„Гарбачоў сваёй неадказнай, некампетэнтнай эканамічнай палітыкай давёў СССР да поўнага гаспадарчага краху"*. Баршчэўскі ведае, што гэта Гарбачоў давёў Краіну Саветаў да краху, а не імперыя сама па сабе, як калос на гліняных нагах, развалілася. *„Гарбачоў зрабіў не тое, што хацеў"* — ацэньвае яго працу аўтар, перагледзеўшы перад гэтым матэрыялы XXVI з'езда КПСС.

Старшыня ГП Аляксандр Баршчэўскі таксама зрабіў з Беларускім грамадска-культурным таварыствам не тое, што хацеў. Асабліва відаць гэта, калі паглядзець у матэрыялы апошняга з'езда БГКТ. Цяпер БГКТ рассыпаецца (як і СССР) і ў такой сітуацыі можна сказаць, што палітыка ягонага кіраўніцтва таксама была неадказная і некампетэнтная.

Вучоны той Баршчэўскі, а піша як паэт, а вядома, што ў паэтаў фантазіі многа. Да распаду СССР давялі непазбежныя грамадскія працэсы, а не палітыканства Гарбачова, як хоча гэтага А. Баршчэўскі.

**М. КУПТЭЛЬ**

# ПОЛЬШЧА-ЛІТВА 2000

У днях 30—31 мая ў Супраслі адбылася канферэнцыя „Польшча — Літва 2000".

Змест канферэнцыі ніякім чынам не адпавядаў назве, бо пра перспектывы польска-літоўскіх адносін на пераломе тысячагоддзяў удзельнікі не даведаліся нічога, тым не менш сустрэча атрымалася цікавай і павучальнай.

Так напраўду сустрэча была адным з элементаў дзеянняў польскай лявіцы, якая прабуе выйсці з тупіка, у які загнаў яе падзел на левых „благонадзёжных", г. зн. з салідарніцкай метрыкай і посткамуністаў.

Верставым слупам павінна быць сустрэча 7 чэрвеня ў Варшаве, на якой прадбачваецца заснаванне новай арганізацыі левых сіл пад назвай Унія працы. Відочным знакам цягі да аб'яднання была прысутнасць на канферэнцыі, арганізаванай Салідарнасцю працы паслоў Уладзімежа Цімашэвіча і Януша Шыманскага. Ад арганізатараў прысутнічалі м. інш. пасол Аляксандр Малахоўскі, Артур Смулко (намеснік старшыні Салідарнасці працы) і д-р П. Марцiняк.

Шукаючы еднасці ў левым руху ў Польшчы, сацыял-дэмакраты разглядаюцца таксама за аднадумцамі за мяжою, як ва Усходняй, так і Заходняй Еўропе. Спонсарам сустрэч польскіх і літоўскіх сацыял-дэмакратаў выступілі іхнія шведскія сябры.

Асноўнай тэмай канферэнцыі было стаўленне сацыял-дэмакратыі да дзвюх праблемаў: грамадска-палітычнай і гаспадарчай перабудовы ўсходнееўрапейскіх краін ды пытанне нацыянальных меншасцяў у іх.

Удзельнікам з польскага боку цікава было даведацца, як выглядае сітуацыя ў Літве з пункту гледжання літоўскай сацыял-дэмакратыі. У Супраслі прадстаўлялі яе дэпутаты ў літоўскі парламент А. Сакалас (старшыня літоўскай С.-д.), В. Андрукайціс (намеснік старшыні), Р. Мацейкянец ды старшыня віленскай арганізацыі Р.Ё. Дагіс.

Сітуацыя ў Літве зусім іншая, чым у Польшчы. Калі польскія прыхільнікі дэмакратычнага сацыялізму пробуюць пабудаваць левы рух як такі, літоўскія ствараюць левае крыло блока „Цэнтр" у парламенце, разам з Рухам за нацыянальны прагрэс і Саюзам лібералаў. „Цэнтр" мае 10% месцаў у парламенце і гуртуецца на грунце абароны правоў чалавека і дэмакратыі. Цэнтрысты лічаць, што як нацыяналістычны „Саюдзіс", так посткамуністы хочуць увесці ў Літве аўтарытарны ўрад, толькі з іншай афарбоўкай.

У Польшчы тым часам посткамуністы зведзены ўжо на ўскраіну палітычнага жыцця, і змаганне ідзе паміж рознымі плынямі салідарніцкага руху; аўтарытарызм пагражае толькі з боку нацыянальна-клерыкальнага фланга.

Розная таксама гаспадарчая сітуацыя Польшчы і Літвы. Паслы А. Малахоўскі і У. Цімашэвіч прадставілі чорны вобраз польскай эканомікі, але з выказванняў іхніх літоўскіх калегаў можна меркаваць, што наша краіна ў параўнанні з Літвой — гэта аазіс дабрабыту з перспектывай на светлую будучыню.

Што да пытання нацыянальных

*працяг на стар. 8*

# ХТО ВЫСТУПІЦЬ У ГАРАДКУ?

**„Басовішча-92" — 17—19 ліпеня**

Аднаго „Басовішча" ў жыцці чалавека — цалкам дастаткова. Фестываль музыкі Маладой Беларусі ў Гарадку ёсць якраз такая імпрэза, якая датла выпальвае арганізацыйны патэнцыял асобы — да такога вываду прыйшоў я пасля падарожжа ў Менск, дзе роўна тыдзень разглядаў тамашні музычны рынак. Выдатна дапамагаў мне ў гэтым журналіст радыёстанцыі „Беларуская маладзёжная" Віталь Сямашка. Удваіх правялі мы адбор выканаўцаў з Беларусі на сёлетні — трэці ўжо — выпуск „Басовішча".

Сваёй маштабнасцю „Басовішча" ўсё яшчэ перавышае досвед яго арганізатараў — як ты б ні рыхтаваўся да фестывалю, а ўсё-ткі напярэдадні атрымліваецца балаганчык. Хацелася б тут на простай мове расказаць пра тое, як „даспяваў" артыстычны кшталт „Басовішча-92" — хай наступная змена арганізатараў (калі такая знойдзецца) зробіць лепей.

Недзе ў снежні 1991 года наведала Менск прадстаўніцтва Беларускага аб'яднання студэнтаў. Тады і быў зроблены першы крок з думкай пра „Басовішча-92". Хлопцы запісалі ў рэспубліканскім радыёвяшчанні перадачу, якую Віталь Сямашка некалькі разоў выпусціў у эфір. У перадачы гаварылася пра тое, што такое „Басовішча" ды якія ўмовы ўдзельніцтва ў ім. Такім чынам беларускія рок-гурты даведаліся, што Фестываль музыкі Маладой Беларусі „Басовішча" ў Гарадку на Беласточчыне з'яўляецца пакуль адзіным у свеце форумам, на якім прэзентуецца ўсё, што самае лепшае ў беларускай маладзёжнай музыцы. Дзеля ўдзельніцтва ў фестывалі трэба было даслаць у радыёстанцыю „Беларуская маладзёжная" касету з запісам, які б як мага лепш пазнаёміў арганізатараў фестывалю з гуртом і ягонай музыкай (такім жа прынцыпам, адзначу тут, карыстаюцца арганізатары фестывалю польскай рок-музыкі „Яроцін").

У „Беларускую маладзёжную" ў Менску прыйшло заявак дваццаць. У сераду 27 траўня ўзяў я з Віталем Сямашкай усе гэтыя касеты і плёнкі ды зачыніліся мы на ладных пару гадзін у адной са студый беларускага радыёвяшчання, што на вуліцы Чырвонай. Правялі адбор. Як тое адбывалася? Што ж, скажу так: выслухалі ўсё, што зацікаўленыя „Басовішчам" гурты нам даслалі. Нічога не пакінулі без увагі. Мая рэфлексія пасля гэтага „рэпертуару" такая: заяўлялі пра сябе галоўным чынам расейскамоўныя эстрадныя гурты. Віталь Сямашка не даў ім аніякага ходу — для яго лічылася перад усім беларускамоўнасць тэкстаў і музычная прафесійнасць. Я паставіў сабе, так сказаць, болей „нацыяналістычны" крытэрый: беларускія тэксты так, але пры гэтым таксама беларускі дух музыкі, што ў выпадку рок-н-рола абазначае тую музыку, якая вырастае на нацыянальнай глебе, але не забывае пра англасаксонскія карані ўсяго стылю. Мае і Віталя Сямашкі крытэрыі



*„Басовішча'91" - „Мясцовы час"*

## МІРА ЛУКША

# КСЕННЯ, ЧУЖАЯ

апавяданне

У Вільні нікога са знаёмых не было дома. Я пакінула свой наплечнік у камеры хавання, узяўшы сабе толькі сумку праз плячо з фотаапаратам і цёплы швэдар - усё ж быў яшчэ толькі пачатак красавіка, хоць цёплы, амаль ужо вясенні, ноччу мог кінуць замаразак ці зябкі дождж, а на вакзале, дзе я збіралася дачакацца ранку, дуюць скразнякі, як на кожным у свеце - вятры падарожжаў...

Нешта заўсёды цягнула сюды мяне. Падыхаць паветрам Вільні. Які ж знаёмы мне быў гэты горад, калі я паявілася тут першы раз! Гэта было на студэнцкай выцечцы. Група пайшла недзе ўперад, а я адзінока хадзіла па вулках, невядома адкуль мне знаёмых, быццам бачаных раней у сне. Быў тады ліпенскі дзень, асляпляючы сонцам, а над горадам, калі глядзець з вежы Гедыміна, трапятаў далікатны ні то паблеск, ні то туман, шэра-залаты. Потым я бегла з горкі камяністай сцяжынкай, у бок катэдральнага пляцу; ногі няслі стромка, хутка, але ў сэрцы штосьці ныла, кусала пякучым жалем. Ці ж гэта радасць сустрэчы, ці пахаванне балючага ўспаміну?

Вярталіся, радасныя, дадому. Хто пералічваў грошы з гандлю на «польскім рынку», хто ціха сядзеў, адурманены подыхам старажытнасці... Я прытулілася да халоднай шыбіны аўтобуса; моцна балела галава, за лыжачкай пякло. Я не ўзяла з сабой кропель ад сэрца, і крыху пабойвалася, што спадарожнікі не заўважаць таго моманту, калі мне стане блага, і не паспею нават шапнуць, каб прасіць дапамогу, а пакуль распаленыя падарожжам сябры схамянуцца, я засну... Калі я была малой, баялася, што памру ў сне ці засну моцна-моцна, і мяне пахаваюць, не ведаючы, што я - толькі сплю... I прачнуся потым у труне, закапанай глыбока ў пухкую глебу, і не будзе ніводнай сілы, якая мне дапаможа адтуль выбрацца. Ці гэта быў страшны сон? Я ў ім так мучылася, кідалася па канапе, дзёрла коўдру, прачыналася раніцай, мокрая, бяссільная, з каменным болем у грудзях. I трывожыла мяне думка /было мне тады 11-12 гадоў/, што паслязаўтра памру, і цэлы клас правядзе мяне на горку за вёскай, на новы могільнік, дзе ляжалі толькі малы Юрась і стары Харко, і ніхто не пачуе глухі крык з-пад зямлі... Перад сном я пакідала на століку пад кніжкай запіску: «Я толькі сплю», якую кожны ранак разжоўвала і выкідала па дарозе ў школу, шчаслівая, што бачу сонца, што дыхаю, іду...

I вось тады я адчула дзіўны боль і страх - а, можа, гэта мой апошні дзень? Ці даеду дамоў? Ці засну і не буду бачыць сваю апошнюю хвіліну? Хоць гэта і страшна, але хіба лепш мець крыху часу развітацца з усім, што дасюль было табой, было тваім?.. Можа, потым нічога няма? Зямлі аддаеш цела, дых - паветру, і ўсё? Хоць цела кветкаю вырасце... Ці ж застануцца на пару соцень гадоў ці хвілін рэчы, якія ўчыніў ці выдумаў чалавек? Ды і не кожны. Вось будаўнікі гэтых дамоў, і слоў. «Літва, айчына мая...» А ёсць жа мільёны людзей, якія рвалі камень, клалі мур і брук, шылі боты, якія гэты брук стапталі, сеялі і пяклі хлеб, рэзалі пергамент і паперу, лілі літары, перадавалі змест вучоных кніг... I ёсць тыя, што шукаюць слядоў гэтых людзей, часам для іншых нябачных пасярод муроў, што змогуць стаяць стагоддзі, спаяныя потам і крывёю...

Аўтобус ляцеў цераз цемру, па шыбінах плылі вялікія слёзы касога дажджу. Я тады прачнулася ў Беластоку. Адчыніла запісную кніжку. Прозвішчы і адрасы беларусаў, з якімі сустрэлася ў Вільні. Канстанцін Пятровіч Новікаў. Стары рэдактар «Кур'ера віленьскага». Сустрэліся мы на катэдральным пляцы. Трэба будзе яму напісаць, паслаць крыху польскіх кніжак і «Ніваў» - наракае Пятровіч на недахоп літаратуры. Такі цікавы чалавек! Падышоў адразу да мяне, быццам выбраў сярод іншых на пляцы. Дзіўна дапытліва глядзеў людзям у вочы. Прыгорблены трошкі, з палкай, са змучаным, хударлявым тва-

былі задаволеныя трыма гуртамі: „Палац” з Менска ды „Кэры” і „Талер” з Бярэсця. Усё расейскамоўнае мы адкінулі з каментарыем „Товарищи не понимают” (не „панімаюць”, зразумела, формулы „Басовішча”), а ўсім іншым беларускамоўным гуртам параілі папрацаваць яшчэ крыху.

Хочацца тут пару слоў прысвяціць адабраным намі гуртам. Гурт „Палац” з Менска выконвае музыку, у аснове якой беларускі фальклор — іхнія апрацоўкі на высокім узроўні музычнай прафесійнасці, а калі ўжо рабіць нейкія параўнанні, дык музыка гурту „Палац” сваім духам нагадвае крыху „Песняроў” ці польскіх „Скальдаў”, калі хто яшчэ памятае такія назвы.

„Кэры” і „Талер” спачатку расчаравалі мяне, бо калі мы патэлефанавалі ў Бярэсце, каб паведаміць хлопцаў, аказалася, што гэта адзін і той жа гурт, які цяпер выступае пад назвай „Талер”. Не расчаравала мяне затое іхняя музыка. Доўга можна было тут характарызаваць музыку „Талера”: залатая сярэдзіна, заходняя школа рок-н-рола... Калі я слухаў у студыі запісы дасланых „Талерам” кампазіцый, нешта там адзывалася ўва мне, неяк падсвядома шукаў узораў у англа-амерыканскай музыцы, на якіх мог вырастаць артыстычны імідж берасцейскага гурту. У крыштальным вакалі ці гардрокавых кадэнцыях гітары гучала і рамантыка ранняга Дып Пэрпл і жахлівасць пазнейшых яго перамальнікаў. Словам, берасцейскі „Талер” ці не найбольш сур’ёзна з усіх падыйшоў да беластоцкага „Басовішча”. Сваю заяўку прыслалі не на касеце, а на мантажнай плёнцы — бадай, заказвалі студыю, каб зрабіць дзеля „Басовішча” запіс. Болей таго, калі мы паведамілі іх пра вылучэнне ў лік выканаўцаў, яшчэ гэтага самага дня з’явіўся ў „Беларускую маладзёжную” хлопец па запрашэнне.



*„Басовішча ’91” - „Мроя”*

Фундамент сёлетняга „Басовішча” складуць гурты, якіх беластоцкая маладая публіка ўжо ведае, гэта значыць — „Мроя”, „Мясцовы час”, „Уліс”, „Новае неба”, „Грамада”. Спадзяюся таксама, што даедуць у Гарадок гурты, якіх беластоцкія фанаты пачуюць упершыню: „Крама”, „Грунвальд”, „Дзіда”, „Ален”, „Доктар Мора” ды вылучаныя з заявак „Палац” і „Талер”. Поўны спіс выканаўцаў „Басовішча-92” будзе яшчэ друкавацца ў „Ніве”.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

# МІЖНАРОДНАЯ ЭКАЛАГІЧНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

Дэлегацыі са 185 краін, у тым ліку 128 кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў - краін-членаў ААН, сабраліся ў Рыо-дэ-Жанейра на міжнародную канферэнцыю па пытаннях навакольнага асяроддзя і развіцця. У працы канферэнцыі ў Бразіліі прымуць удзел каля 30 тысяч вучоных і спецыялістаў-экамамістаў, дыскусіі якіх будуць асвятляць больш як 5 тысяч журналістаў з розных краін свету. Апошняя падобная канферэнцыя адбылася дваццаць гадоў таму ў Стакгольме. Тады, на канферэнцыі ў Стакгольме, паміж развітымі дзяржавамі была дасягнута дамоўленасць, каб праблемы экалогіі уключаліся ў парадак дня міжнародных форумаў.

Ад 3 да 14 чэрвеня Рыо-дэ-Жанейра станецца месцам самай буйной сустрэчы лідэраў дзяржаў у гісторыі чалавецтва. На канферэнцыю ў Бразілію прыбыла і дэлегацыя Беларусі на чале з міністрам замежных спраў Пятром Краўчанкам. Запланавана, што па ходу канферэнцыі ў Бразілію прыляціць і старшыня беларускага парламента Станіслаў Шушкевіч. Для Беларусі пытанне экалогіі ці не самае надзённае сёння, калі трэцяя частка тэрыторыі рэспублікі з больш як двухмільённым насяленнем у выніку аварыі на Чарнобыльскім рэактары ў 1986 годзе апынулася ў заб руджанай зоне.

Канферэнцыя ў Бразіліі спрычынілася да правядзення ў розных краінах свету канферэнцыяў і сімпозіумаў лакальнага характару. Гэтак 2 чэрвеня ў Магілёве пачаў сваю працу міжнародны сімпозіум па пытанні ўратавання дзяцей, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы. Сімпозіум сабраў у Магілёве вядомых вучоных, лекараў, радыёлагаў з Японіі, Беларусі, Расіі і Украіны.

*/паводле радыё «Свабода»/*

рам. Яшчэ не такі стары, сямідзесяцігадовы. Вочы шэрыя, адкрытыя, але нейкія халодныя, сумныя. Цікавіўся, што чуваць у беластоцкіх беларусаў. Стары вільнюк, сам рускі, мае жонку ўкраінку. Займаўся перакладамі з славянскіх моваў, да вайны быў друкаром /працаваў у друкарні Труцько і Багаткевіча, складаў зборнікі вершаў між іншымі Танка і Машары/, у дзяцінстве быў газетчыкам... Абяцаў паказаць мне старую Вільню, беларускую Вільню. Неспакойна развітаўся: «Каб толькі паспець!» «Абавязкова, паспееце, яшчэ не раз сустрэнемся!» - я пацiснула халодную, сухую руку Пятровіча.

Сёння я пазваніла - нікога дома не было. Не было і Альдоны і Віктара, ні Валянціна, ні Людкі Кардзіс... Я пакінула наплечнік на вакзале, і пакуль зусім не сцямнела, пешшу рушыла ў горад. Глядзела на неба, будынкі, людзей і жывёл. Было мне добра. Час ад часу, з подыхам ветру ад Віліі, успырхнула маё сэрца, але не страшна было мне ісці адзінока ў узбуджаны халодным вясновым вечарам горад. Не пыталася пра дарогу - ішла нікуды, але зноў перад маімі вачыма паявіўся вакзал. Я апусцілася на халодную лаўку. Побач малады высокі мужчына, пякучы пальцы, засцярожана дапальваў кароценькую папяросу. Ці кагосьці чакаў? Паглядзеў проста на мяне. Не люблю я такіх нахабных, цікаўных позіркаў, да якіх здольны толькі дзеці, у дарослых людзей. Але не адчула неспакою. Навокал прабягалі занятыя сваімі справамі людзі, вакзал уздрыгваў ад цяжкіх уздыхаў цягнікоў, з віскам беглі тралейбусы. Вочы чалавека былі светлыя і чыстыя. Хто мае такія вочы сёння? І чаму ён так на мяне ўзіраецца? Мой зрок доўгі час застыў на яго зрэнках. Я ўжо нічога не думала, дыханне затаілася, пахаладзелі пальцы, а потым гарачая хваля ахінула мяне ад валасоў да пят, і я адчула ў горле спалоханае сэрца. Ён уздыхнуў.

Перад намі сеў чорны кот з белым ахайным каўнерыкам.

- Чаго ён на нас так утаропіўся? Чырвоныя вочы і ў катоў сустракаюцца толькі ў альбіносаў, праўда? - я прамовіла па-беларуску праз сціснутае горла.

- Праўда, у яго чырвоныя вочы. Гэта ад святлафораў, ці што? - прыглядзеўся да ката хлопец, усміхнуўся і выкінуў недакурак у урну. - Можа, пазнаёмімся? Мы, здаецца, ужо дзесьці бачыліся?.

- Пэўна, у тэлевізары, ці што? - я крыва ўсміхнулася. - А, можа, дзе на мітынгу ці канцэрце? Чую, вы беларус.

- Аляксандар. Я сёння прыехаў з Менску. Страшна захацелася ў Вільню, узяў ды паехаў.

Мы ўсталі і без слова пайшлі.

Ішоў дождж, а мы разам з ім. Мокрыя, шчаслівыя. Выбіралі самыя разлажыстыя калюгі, каб прадэфіляваць іх цэнтрам, хоць пальцы ў прамоклых ботах аж курчыліся ад холаду. Неспакой, боль, шчасце. Халодныя кроплі калолі ў нашы сплеценыя далоні.

За намі доўгімі скокамі пераадольвала лужыны чорная кошка. Мы адчувалі яе зрок. Кошка прыпынялася, калі мы затрымліваліся, каб пагрэць свае далоні, з недаверам пагля̀дзець сабе ў вочы. Халодныя пальцы Алеся нецярпліва забягалі ў мой рукаў, пяшчотна і няўпэўнена туліліся да маёй спалоханай скуры. «Не трэба... Што ж гэта такое з намі?..»

Мы выйшлі на катэдральны пляц.

- Алесь, я так хацела сустрэць Канстанціна Пятровіча...

- Хто гэта?

- Чалавек, які ведае Вільню. Стары чалавек. Я для яго сёння прыехала сюды... І для цябе... Кіс-кіс, кісуля, і табе холадна?

Кошка блiснула чырвонымі вачыма, пацерлася мне аб лыткі. Я нахілілася, пагладзіла яе па мокрай спіне.

- Старэнькая яна, глядзі, якое ж у яе недалужнае, старэчае цела! А як хутка бегла за намі! Ведаеш, я часта размаўляю з незнаёмымі катамі іх мовай, і яны, бывае, праводзяць мяне на працу, на вакзал... А яна, старушаня, пэўна, бяздомная. У старых гарадах, у руінах водзіцца шмат такіх катоў.

Алесь усміхнуўся, правёў рукой па маіх мокрых валасах.

- Добры вечар, Міраслава! - падышоў да нас сутулы цень.

- О, Канстанцін Пятровіч! Як я рада! А гэта - Алесь.

- А гэта, бачу, Ксення? Заплюшч свае чырвоныя вочы, Ксення. Апошні раз хочаш забіць імі шчасце. Ці памятаеш ты, Міра, як 423 гады таму выйшла яна да вас, калі ты, Юльяна, апошні раз была шчаслівай з Янам? А ты, Алесь?.

Нашы сплеценыя пальцы задрыжалі.

- Ксення, ты заўжды была чужой, адзінокай. Людзі потым былі твае, з акамянелымі сэрцамі, чэпкімі пальцамі, халодным розумам. Твае ўжо былі. Думаць маглі толькі так, як ты захацела, сама нешчаслівая. Людзі ўтапілі тваю пані-вядунню, цябе кінулі ў вогнішча, тваіх сляпых дзетак кожны раз аддавалі сцёкам...

- Пятровіч, а чаму мяне тады закапалі жыўём? Я памерла з жалю? Атруцілася?

*працяг на стар. 8*

# КСЕННЯ, ЧУЖАЯ

праця́г са стар. 7

- Ты ведаеш. Я ведаў, што ты - ведаеш! Не маглі вы быць разам. Такая паспалітая гісторыя: ён багаты, яна - бедная. Каханне магло перамагчы ўсё. Ксення выбірала толькі шчаслівыя пары. Не магло быць вечнага шчасця, бо вечная нянавісць Ксенні, чужой, дзікай, адзінокай. Ужо тады яна была старая, бяздзетная. І загараліся ў вачах людзей чырвоныя агеньчыкі...

Ксення падышла блізка да Пятровіча, выструнілася, біла хвастом па баках. Лілося ліловае святло ліхтароў, за намі стаялі апертыя аб нейкі барак летувіскія лозунгі. Спакойна і горда свяцілася катэдра, на вежы Гедыміна лунаў сцяг...

- Ксення, ёсць яшчэ людзі, якія ведаюць пра цябе. Я адзіны, хто не пабаяўся цябе выявіць. Ведаю, што мне за гэта пагражае, але і ты, і я тут апошнія, хто ведае Вільню. Яна нас схавае, як яшчэ адну сваю таямніцу. Адыдзем у гэтыя муры... А вы... Вашы вочы святлістыя. Калі б нават захацела яна запаліць у іх свой агеньчык, не ўдалося б ёй...

Я нахілілася да кошкі. Ксення сядзела пры назе Пятровіча, сумная і згорбленая пад нейкім цяжарам, як і гэты стары друкар.

- Ідзем, Ксення, рабі тое, што абяцала мне яшчэ ў дзяцінстве... - і яны пайшлі ў бок Базыльянскіх мураў.

Мы стаялі хвіліну, як акамянелыя, потым пабеглі. Божа, як холадна - гэта ж толькі 9 красавіка! Толькі шалёныя людзі бадзяюцца мокрыя ў такі час па начным горадзе!

Пераапрануліся ў сухое на вакзале, хвілінку прыснулі. Раніцай пазванілі Новікаву.

- Канстанцін Пятровіч памёр сёння ноччу. Сардэчны прыступ, - трубку падняла Анна Ільінічна.

Дзень быў сонечны. Мы моўчкі пайшлі на катэдральны пляц. У касым сонцы ярка свяцілася вялікая чырвоная пляма. На ходніку ляжала шкло.

- Хтосьці разбіў трохлітровы слоік з малінавым сокам! - радасна ўсклікнуў Алесь.

У яго вялікай цёплай далоні мая ўжо не сціскала запіскі, што я толькі сплю.

**МІРА ЛУКША**

# ЗЛАЧЫНСТВЫ Ў САКРАЛЬНЫХ АБ'ЕКТАХ

Уначы з 22-га на 23-е мая на праваслаўных могілках у Дайлідах былі знішчаны надмагільныя помнікі: 2 вялікія, на магілах дарослых і 6 малых - на дзіцячых. Вандалы параскідалі крыжы, разбілі пліты, раздзяўблі мармур.

Дайліды гэта прадмесце Беластока. Праваслаўныя могілкі распаложаны каля гуллівай шашы на Бельск і Люблін. Побач стаіць прыхадскі дом. Цэлую ноч гарыць тут святло, адчыненая брама. «Нашыя прыхаджане прасілі не зачыняць браму, - кажа настаяцель Свята-Ільінскай царквы айцец мітрат Аляксей Нэстаровіч, - бо часта прыязджаюць і ўвечары даглядаць магілы сваіх блізкіх. Хуліганы не пабаяліся ні святла, ні магчымай сустрэчы з людзьмі. Са знішчэння відаць, што гэта былі маладыя людзі, не хапіла ў іх сілы на тое, каб змагацца з вялікімі крыжамі, таму параскідалі дзіцячыя».

Такое думкі прытрымліваецца і паліцыя.

* * *

У суботу 30 мая ў Вялікіх Тыневічах служылася 40-дзённая абедня па адным з прыхаджанаў. Тады і быў заўважаны ўзлом у царкву, якая стаіць на могілках, у ляску за вёскай. Зладзеі ўкралі 2 напрастольныя евангеллі, 2 чашы, літургічны камплект. Матэрыяльная вартасць зрабаванага невялікая - каля 5 мільёнаў злотых. Дзве цэнныя, маляваныя на дрэве іконы асталіся на месцы. Зладзеі не знайшлі таксама грошай, якія былі якраз у царкве, у жалезнай касетцы.

Так паліцыя, як і настаяцель а. Уладзімір Саўчук лічаць, што ў царкву ўзламаліся непрафесіяналы. Пры чым, мусілі яны карыстацца дапамогай прынамсі аднаго дзіцяці. Адзіную дарогаю ў царкву было невялічкае акенца, праз якое дарослы чалавек не пралез бы. «Зладзеі-спецыялісты ведаюць, што ў якой царкве колькі вартае, - кажа айцец У. Саўчук, - і перш за ўсё абкрадаюць аб'екты, якія з'яўляюцца помнікамі культуры. А наша ж царкоўка не помнік культуры, і няма ў ёй багатага абсталявання».

Падчас гэтага ўзлому зладзеі дапусціліся вялікага святатацтва - параскідалі па падлозе святыя тайны з дарахраніцельніцы. Зрабілі гэта або па сваёй злосці, або па несвядомасці, на якую святасць паднялі рукі.

* * *

Абодва здарэнні маюць падобны аспект. І ў адным, і ў другім выпадку хуліганы выкарысталі сваю энергію дзеля разбурэння, знішчэння. Паважыліся на ганьбаванне святасці. Дзеля чаго, дзеля якой карысці? І што найгоршае, злачынстваў дапусціліся праўдападобна людзі маладыя. Ці гэта толькі дурнота, ці штосьці іншае, над чым трэба задумацца нам усім?



*Царква св. Лукі ў Вялікіх Тыневічах*
фота М. Ваўранюка.

**М.В.**

P.S. Калі я здаваў гэты матэрыял у друк, дайшла да мяне вестка аб чарговым злачынстве. Зладзеі - праўдападобна тыя ж, што ў Тыневічах - абакралі Спасаўскую царкву ў Кленіках. Царква гэтая стаіць на могілках, каля кіламетра ў бок Гародчына.

Звярэюць людзі?



*Разбураныя надмагільныя помнікі ў Дайлідах.*

# ПОЛЬШЧА-ЛІТВА 2000

праця́г са ст. 6

меншасцяў, трэба адразу адзначыць, што маштаб польскага пытання ў Літве (8%) і „літоўскага" у Польшчы (0,1%) непараўнальны, хоць абодва бакі (у тым ліку польскі пасол у літоўскі сойм Рышард Мацейкянец і старшыня Саюза літоўцаў у Польшчы Эўгеніюс Петрушкевічус), згодна наракалі на палітыку адпаведных уладаў. Відочным доказам стаўлення гэтых уладаў да згаданай праблемы была адсутнасць на сустрэчы запрошаных адказных чыноўнікаў з польскіх і літоўскіх міністэрстваў.

Прысутныя згадзіліся ў тым, што нацыянальныя меншасці павінны прымаць удзел у палітычным жыцці сваіх краінаў праз агульнакраёвыя партыі, неабавязкова сацыял-дэмакратыю, хаця менавіта яна справу правоў для нацыянальных меншасцяў ставіць як адзін з важнейшых пунктаў сваёй праграмы. (Адмецім пры нагодзе, што спадар Э. Петрушкевічус — сябра Салідарнасці працы, а пасол Р. Мацейкянец стварае польскую фракцыю ў літоўскай сацыял-дэмакратыі).

Канферэнцыя заключылася згоднай дэкларацыяй абодвух бакоў, што дыялог павінен прадоўжвацца ў сталых формах, а сацыял-дэмакраты павінны намагацца арганізаваць свой рух у маштабе цэлай усходняй Еўропы, з падтрымкай заходнееўрапейскіх сацыял-дэмакратаў.

Як партнёр з беларускага боку бачыцца Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада. Мабыць, наступным крокам арганізатараў супрасльскай сустрэчы будзе спатканне з беларускімі сябрамі.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

# ВАРОНЫ

Я вельмі люблю птушак. Можа, за выключэннем варон, якія напамінаюць мне аб адным трагічным здарэнні. Напамінаюць тады, калі крычаць.

У нашай вёсцы жылі дзве адзінокія дзяўчыны. Іх бацькі паўміралі рана і яны абедзве засталіся працаваць на гаспадарцы. Хто там ведае, як было ў сапраўднасці - ці яны не хацелі ісці замуж, ці іх ніхто не хацеў, але было ім ужо за трыццаць.

Да малодшай стаў заляцацца Косцік. Калі даведаўся, што дзяўчына з ім зацяжарыла, нягоднік страціў да яе цікавасць і большую ўвагу пачаў аказваць старэйшай сястры. І хаця тая ведала пра цяжарнасць малодшай, то Косцікавых заляцанняў не адкінула. Для яе хлопец стаў важнейшы за няшчасную сястру. Неўзабаве была назначана дата іхняга шлюбу.

Малодшая сястра рашылася на самагубства - кінулася пад цягнік. Калі яе праводзілі на могільнік вароны страшэнна крычалі, быццам цешыліся з гэтай трагедыі.

Людзям стала і дзіўна, і страшна, бо ніколі не чулі, каб так дзіка і заўзята каркалі вароны.

**АЎРОРА**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


*Дзяўчаткі з Нарвы.* **Фота Міры Лукшы.**

## НАВАСЕЛЕЦ

У гадавальніку з'явіўся навасялец - малады чорны бусел.

Ногі ў яго бруднавата-зеленаватыя, такога ж колеру і дзюба. Гэта таму, што ён - малады. Пазней і ногі, і дзюба стануць чырвоныя, як у кожнага прыстойнага бусла, белага ці чорнага. Ніз у яго белы. Верхняе апярэнне - шыя, спіна, крылы, хвост - чорнае, бліскучае, пераліваецца зялёным, сінім, фіялетавым колерамі.

Бусел прыходзіць да мяне і ціхенька шчоўкае дзюбай, нібы нешта мармыча. Я прыслухоўваюся да частых гукаў, і мне здаецца, што ён звяртаецца з нейкай просьбай, пра якую не хоча гаварыць голасна.

Бусел не баіцца людзей, падыходзіць блізка, глядзіць запытальна і мармыча, мармыча безупынна. Усё гэта ніяк не стасуецца з прывычным уяўленнем аб чорным бусле, як аб палахлівай і асцярожнай птушцы, якая хаваецца ў лясной гушчэчы, каб не трапіць людзям на вочы.

Я пацікавіўся, як трапіў бусел у гадавальнік.

Высветлілася, што нарадзіўся ён не ў гадавальніку, а на волі. Шафёры знайшлі яго з пакалечаным крылом і аддалі на Віцебскую станцыю юных натуралістаў. Там вырашылі, што трэба адправіць бусла ў запаведнік, бо на станцыі цяжка будзе яго выкарміць. І адвезлі ў Домжарыцы, здалі ў гадавальнік.

Навасялец знаходзіца пакуль што ў закрытым памяшканні. Але неўзабаве яму пабудуюць асобную вальеру, і ён будзе жыць на свежым паветры.

Зламанае крыло зраслося няправільна. Жыць на волі, лятаць бусел не можа. Яму патрэбна дапамога ад людзей.

І гэту дапамогу чорны бусел знайшоў.

**ВІТАЛЬ ВОЛЬСКІ**

## ВЯСНА

Чаму вясна, плачаш,
Шаму не вяселішся?
Пусціла нам лісточкі.
Дзякуем табе за ўсё.

Прыляцелі птушкі,
Шчабечуць над лугамі.
Буслы на гняздзе.
Усё цешыцца навокал.

Цвітуць кветкі -
Нарцызы, цюльпаны,
Жоўта па лугах
Зацвіў малачай.

Шумяць па-веснавому
Ўсе дрэвы,
А ў іх кронах
Птушачкі гуляюць.

**ПАЎЛІНА СІДОРСКАЯ,**
*Орля*



## ЯК БУСЛЯНЯТ ЗАБІРАЛІ

- У гэтым годзе будзе ў нас свой бусел!- хваліліся перад класам Дарэк і Лукаш, пяцікласнікі.

- Хі-хі-хі! - смяяліся дзеці.- А як вы думаеце яго прыручыць? Зробіце сабе крылы, і лётаць за ім будзеце за жабкамі, а можа яго зловіце ў сачок?..

- Мы такое прыдумалі, што вам і не снілася!

Хлопчыкі ўзялі старое іржавае роварнае кола і зацягнулі яго на вярбу, што стаяла ля Даркавай хаты. Бацькі сказалі, што буслы тут не паселяцца, але дзеці ведалі сваё.

Буслам месца спадабалася. Хлопцы нецярпліва чакалі, калі выклююцца ў іх малыя. Рашылі ўзяць сабе буслянятка, самі яго гадаваць і не пусціць, каб паляцела ў вырай з іншымі буслямі.

Калі бусляняткі ўжо былі і бацькі прыносілі ім ежу, Лукаш і Дарэк рашылі адно забраць. Хлопчыкі пачакалі, і калі старыя буслы паляцелі на луг, палезлі на вярбу. Былі ўжо каля гнязда, як прыляцела бусліха. Яна дзеўбанула Дарка ў вока, і хлопчык з крыкам зваліўся на зямлю. Лукаш не памятаў, як знайшоўся пад дрэвам, з пераламанай нагой.

Лукаш застаўся без вока. Цяпер кажа, што праз сваю неразумнасць бачыць толькі паўсвету.

**ІРЭНА САЛАВЕЙ**

АРТУР ВОЛЬСКІ

## БЕГЕМОЦІК

Пасярод дрымучых вод
жыў дзядуля-бегемот
і пад сонцам афрыканскім
грэў то спіну, то жывот.
У разважлівага дзеда
быў унучак-непаседа.
Ведаць трэба ўсё яму:
- Як?
- Адкуль?
- Куды?
- Чаму?
Не ў дакуку,
а ў навуку
гаварыў дзядуля ўнуку:
- Маем тут мы ўсё, што трэба.
Ёсць вада, зямля і неба.
Дык жыві, як жыў твой дзед,
не цягайся ў белы свет,
а жыруй сабе ў трысці
ды расці,
расці,
расці.
Так з цябе -
праз колькі год -
будзе сталы бегемот.
Але ўнучак-бегемоцік
пазяхаў на поўны роцік.
Ён ад дзедавых парад
уцячы быў тут жа рад,
бо даўно гарэза марыў
зазірнуць за далягляд.
Як там,
хто там,
дзе там,
што там, -
ён усім раскажа потым:
і маленькім,
і сярэднім,
і дарослым бегемотам.
Уначы, калі паснулі
усе бабулі і дзядулі,
калі зоркі ў цёмнай ціне,
як у хмары,
патанулі,
бегемоцік -
вось які! -
ціха выбраўся з ракі
і падаўся без дазволу
ў свет шырокі напрасткі.
Колькі ён спаткаў на волі
дзіваў розных і прыгод,
не дазнаецца ніколі
аніводзін бегемот.
Бо жыве былы гарэза
ў ванне,
зробленай з жалеза.
Тут яго частуюць ежай
самай смачнай,
самай свежай.
А наўкол гудзе народ:
- Колькі ўлезе
ў гэткі рот?!.
І зусім няўцям нікому,
што сумуе бегемот.
Дзе блакіт,
што цешыў вока?
Дзе ўзбярэжжак у трысці?
Ах, як Афрыка далёка -
не дайсці,
не дабрысці!
Там,
сярод
дрымотных вод,
вось ужо каторы год
слёзы горкія па ўнуку
лье старэнькі бегемот:
- Ах, навошта,
мой харошы,
ты рабіў наадварот?!



# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

## МЫШКА ПІК-ПІК ПРЫБІРАЕ НОРКУ

Летам у кватэры, дзе жыве мышка Пік-Пік, адбыўся Вялікі Рамонт. Пік-Пік ледзь перажыла гэтую страшэнную навалу. Цэлы тыдзень у доме смярдзела фарбай, тупалі незнаёмыя людзі, мэбля перасоўвалася з месца на месца. Асабліва цяжка было дабірацца да халадзільніка. Але вось нарэшце ўсё скончылася, і кватэра зрабілася такой прыгожай - падлога блішчала, столь - бялюсенькая, як снег, а на сценах - новыя шпалеры ў кветкі. Пахадзіла мышка па абноўленых пакоях, скептычна пафыркала, але ў мышчынай душы пасялілася чорная зайздрасць. Вярнулася Пік-Пік у сваю норку і ледзь не заплакала: якое, аказваецца, бруднае і неўладкаванае яе жытло! Усё шэрае, пыльнае, на падлозе тоўсты слой смяцця - абгрызкі, шалупінне семачак, цукерачныя абгорткі, шматкі газет. З усяе мэблі - толькі ложак - цукерачная каробка.

- Нічога не зробіш!- наважылася мышка. - Прыдзецца тут прыбіраць!

Ніколі раней на гэты сумны занятак Пік-Пік часу не марнавала, і як прыбіраць - уяўляла даволі цьмяна. Здаецца, галоўнае - вымыць падлогу. Але як зацягнуць у норку ваду?

Мышка нездарма вызначаецца адметнай кемлівасцю. Яна дачакалася, калі ўсе паснулі, пашыбавала на кухню, пасля ў ванну і паўсюль паадкрывала краны. Калі вада са страшэнным шумам пачала запаўняць ванну і мыйку, Пік-Пік са спакойным сумленнем пайшла спаць.

Прачнулася мышка ад таго, што ёй зрабілася мокра. Яна неахвотна расплюшчыла вочы і ўбачыла над сабой столь, якая чамусьці пагойдвалася! Мышка перавярнулася на другі бок і зразумела, што яе цукерачная каробка-ложак пагойдваецца на хвалях пасярод пакоя!

- Гвалт! - шэптам сказала Пік-Пік, таму што голас у яе прапаў з перапуду.

Невядома, чым гэта скончылася б, каб тата не прачнуўся і не захацеў надзець пантофлі, якія даўно сплылі ў другі кут пакоя. Ступіўшы ў халодную ваду, тата дзіка ўскрыкнуў і канчаткова прачнуўся. Прачнуліся і мама, і Веранічка, і Пепіта. Веранічка засмяялася і пачала бегаць па вадзе, і ганяць пантофлі. Мама паімчалася правяраць краны, а тата, бледны, але спакойны, стаяў босымі нагамі ў вадзе і мужна шаптаў:

- Канец свету... Гэта канец свету... Вялікі патоп!

Між тым мама выключыла краны і актыўна вычэрпвала з падлогі ваду. Хутка пантофлі і мышчын ложак перасталі гайдацца на хвалях, але кватэра ўжо не была такой чыстай і



*Мышка Пік-Пік плыве за бананамі. Малюнак К. Тарадынкі з Нараўкі.*

прыгожай: смяцця, якое вымылася з мышчынай норкі, было так многа, што яно забрудзіла ўсю кватэру.

Мама і тата доўга высвятлялі, хто адкрыў краны. Пік-Пік вырашыла, што лепей на нейкі час знікнуць, і схавалася ў норку. Там было мокра, але непрывычна чыста. А ў якасці ложка Пік-Пік выдатна прыстасавала Веранічкіну пантофельку, занесеную ў норку вадой.

- Як добра я сёння папрацавала, - вырашыла мышка і соладка заснула.

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**



*Эмільцы Багацэвіч з Крывяціч „Зорку" яшчэ чытае дзедка, але праз пару гадоў?..* **Фота Міколы Ваўранюка**

## НАДВОР'Е І НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Ранішняя зарніца чырвоная - будзе дождж.

Уначы выпала густая раса - да яснага надвор'я.

Глухі гром - да ціхага дажджу, рэзкі - да ліўня.

Птушкі моцна крычаць, нізка лётаюць - перад непагаддзю.

На агонь кастра ляціць многа машкары - надвор'е пагоршыцца.

Сена моцна пахне - ноччу дождж ахне.

Калі 1 і 2 чэрвеня лье дождж - увесь чэрвень будзе сухі.

Сонца перад заходам у хмарку нырае - на непагоду.

Спахмурнела неба, а кветкі дзьмухаўца раскрытыя - дажджу не будзе.

Беларусь, 247537, Гомельская вобл., Рэчыцкі раён, п/о Васількоў,в. Дуброва, СМАЛЯН Снежанна (16 гадоў, вучыцца ў 10 класе, хоча перапісвацца са сваёй равесніцай).

## ТАПОЛІ

Як жа надакучваюць нам у чэрвені тапаліныя пушынкі! Быццам белая завея ўзнімаецца ў гарадах і вёсках. Пух пранікае ў хаты і кватэры, бясконца лезе ў твар. У многіх людзей з гэтай прычыны нават з'яўляецца алергія. Дык няўжо ж нельга даць рады гэтай, хоць і рамантычнай, але даволі непрыемнай з'яве?

Яшчэ старажытныя грэкі ведалі сакрэт гэтых белых завей. Свае вуліцы і пляцы яны абсаджвалі толькі таполямі мужчынскага роду. Характэрна, што і нашыя беларускія паны ў свой час клапаціліся пра камфорт. У гэтым можна пераканацца, калі пабываць у парках, якія яшчэ захаваліся на месцы былых маёнткаў.

Справа ў тым, што таполя - расліна двухдомная, мае і жаночыя, і мужчынскія экземпляры. Цвітуць яны ў адзін час яшчэ да таго, як распусціцца лісце. Мужчынскія дрэвы маюць чырванаватыя завушніцы, а жаночыя - цёмна-зялёныя. Менавіта з апошніх і ўтвараюцца завязі, якія ў сярэдзіне лета даюць насенне, што разлятаецца пасля на пушыстых парашуціках.

Пазбегнуць гэтага даволі лёгка, калі наразаць чаранкі для развядзення з мужчынскіх экземпляраў таполі. Таполя, у адрозненне ад многіх іншых дрэў, лёгка размнажаецца чаранкамі. І часта мы клянём яе зусім дарэмна. Калі яна расце паблізу саду, то засцерагае пладовыя дрэвы ад многіх хвароб. Таполя яшчэ і найлепшы санітар. Яна рэкардсмен па колькасці кіслароду, які выдзяляе, выдатна паглынае шум, затрымлівае копаць і шкодныя для арганізма чалавека газы. І асабліва добра зберагае вясковыя сядзібы ад пылу.

Расце таполя вельмі хутка. І той, хто ў школьным узросце пасадзіць такое дрэва каля хаты, гадоў праз дваццаць пяць зможа палюбавацца магутнай кронай і ствалом у цэлы абхват.

# СВЕТА

## МАЛЕНЬКІ СЯБАР

-Мы з табой заўсёды будзем сябрамі,- сказаў дзядуля.

-Будзем,- ахвотна пагадзілася Света.

-Вялікімі-вялікімі!-удакладніў дзядуля.

Света прыціхла, задумалася.

-Я не магу быць вялікім сябрам.

-Чаму?- здзівіўся дзядуля.

-Я ж маленькая!

## ПРЫ ЧЫМ ВОЧЫ?

Бабуля прылягла на канапу. Падбегла Света і просіць:

-Бабуля, пачытай казку.

-Не магу, у вочы закапалі лякарства. Света здзівілася:

-Бабуля, табе ж не ў рот закапалі!

## ХІБА МАЛА?

Дзядуля ўзяў ключ ад паштовай скрынкі і пайшоў па газеты.

-Мама,- паклікала Света і паказала на стол: -Вунь колькі газет ляжыць! Нашто дзядулю яшчэ газеты?

## БОБРЫК

Купілі Свеце каробку пластыліну. Ляпілі качку, варону, машыну, хатку... Але больш за ўсё спадабаўся Свеце непрыглядны камячок, які яна зляпіла сама.

-Гэта бобрык,- Свеціны вочкі свяціліся радасцю.- Дзядуля, гэта ж бобрык!

Яна, відаць, уявіла, што зляпіла прыгожага бабра, якога нядаўна бачыла па тэлевізары. Бегала, шчаслівая, па хаце, усім паказвала, які ў яе цудоўны звярок:

-Маленькі, пушысты, цёпленькі!

І ўсміхалася бобрыку як жывому.

**МІКОЛА ДЗЕЛЯНКОЎСКІ**

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А

Ці зможаш вывесці,не адрываючы ад паперы, гэты малюнак? Памятай – нельга два разы маляваць адну лінію!



Ніна Амельянюк

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

## IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. ЛЕКСІКАЛОГІЯ.

**12. Запазычанні з англійскай і галандскай моў.1**

**Англізмы (англіцызмы).** Словы англійскага паходжання беларуская мова запазычыла пераважна ў XIX-XX ст. ст. Гэта перад усім словы-тэрміны, якія адносяцца да:

— палітыкі і эканоміі: *банкнот, бізнес, бізнесмен, блеф, блакада, бос, долар, мітынг, чэк*;

— ваеннай і марской справы: *блакада, браўнінг, бункер, докер, дрэйф, катэр, снайпер, танк, трап, траўлер, шлюпка*;

— тэхнікі: *афсет, бойлер, бульдозер, дрэн, клаксон, радар, трактар, трамвай, тэлетайп*;

— спорту: *аут, бокс, валейбол, ватэрпола, гол, накаўт, накдаўн, трэнер, тэніс, футбол, хакей*;

— прыродазнаўства: *алігатар, гібон, джунглі*;

— культуры: *джаз, клуб, факстрот, фільм*;

— быту:

а) назвы адзення і тканін: *вельвет, джынсы, каверкот, піжама, плед*;

б) назвы страў і напіткаў: *бекон, біфштэкс, віскі, джэм, кактэйль, кекс, пудынг*.

Англізмам характэрныя такія моўныя прыкметы, як:

— спалучэнне дж у пачатку слоў: *джэмпер, джэрсі*;

— спалучэнні **ай, ей** у сярэдзіне слоў: *афсайд, валейбол*;

— спалучэнні **інг, мен, тч** у канцы слоў: *мітынг, прэсінг, бізнесмен, матч*.

**Запазычанні з галандскай мовы.** Складаюць яны ў лексічнай сістэме беларускай мовы невялікую групу. Былі запазычаныя ў XIX—XX ст., асабліва праз пасрэдніцтва рускай мовы. У пераважнай сваёй большасці абазначаюць паняцці са сферы:

— марской справы і суднабудавання: *бак* (насавая частка верхняй палубы), *бакштоў* (канец каната), *боцман, брамсель* (парус), *дрэйф, шторм*;

— тэхнічнай: *кабель*;

— ваеннай: *канвой*;

і некаторыя іншыя паняцці: *апельсін, баласт, краб, сіцец*.

---

1. Літаратура: Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Фанетыка. Арфаграфія. Лексікалогія; Мінск 1961, с. 169-170; В.П. Красней , У.М. Лазоўскі , І.М. Шчарбакова, Сучасная беларуская мова. Лексікалогія. Фразеалогія, Мінск 1984, с. 62-63.

## ЯК ДЗЯДЗЬКА РЫГОР ВЫЛЕЧЫЎСЯ

— Штосьці апошнім часам вас, дзядзька Рыгор, не было відаць. Няўжо хварэлі? — пытаюся 84-гадовага Рыгора Байко з Белавежы.

— Ай, хварэў! — смяецца дзядзька.

— Дык чаго тут смяяцца? — здзіўляюся.

— Я не смяюся, толькі цешуся, — чую ў адказ. — Ведаеш, Пятрусь, захварэў я. Прастудзіўся! Ляжаў, думаў само пройдзе. Але дзе там! Пайшоў у нашу „касу хворых". Далі мне розных пілюляў. Пачаў іх піць і... зусім аслабеў. Не, думаю, гэта не мне лякарствы! Трэба пашукаць другую аптэку, лепшую.

— Ну і дзе вы яе знайшлі, у Гайнаўку ездзілі?

— Не, у Белавежы знайшоў!

— То ж у Белавежы толькі адна аптэка?!

— Дык што ты? Ёсць і другая.

— ?

— На Крыжах яна. У Мацяеўскага.

— Вы, дзядзька, мабыць, яшчэ не зусім здаровы? У Мацяеўскага крама з гарэлкай.

— Я ж так і кажу! Купіў я там добрае лякарства. Дарагое! Спірт цяпер, ведаеш, вельмі дарагі. Браў штодня. Нямнога, па адной маленькай чарачцы. І хвароба прайшла. Як рукой адняло. Цяпер я зноў „на хадзе". Добрую я аптэку знайшоў, ой добрую!

І дздзька Рыгор, усё яшчэ ўсміхаючыся, пайшоў далей.

**Запісаў**
**ПЕТР БАЙКО**



## ЗЛАДЗЕІ-«ТЭЛЕФАНІСТЫ»

Апошнім часам пашыраецца новая з'ява - крадзеж тэлефонных ліній. Злачынцы крадуць тэлефонныя кабелі і правады, а здабыты такім чынам медны або алюмініевы дрот прадаюць як металалом.

У канцы мая паліцыя злавіла ў лесе каля Рыбалаў чатырох юнакоў. Прыехалі яны з Беластока на машыне. Пры іх былі адпаведныя прылады для ўваходжання на тэлефонныя слупы і здымання правадоў. Аказалася, што адзін з хлопцаў працуе тэлефаністам. У самаходзе было схавана 17 скруткоў дроту. Злачынцы прызналіся, што гэта не першая іх акцыя.

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Нядаўна маёй сяброўцы прысніўся сон пра мяне і маю дачку. Быццам мы з дачкою пракручвалі праз мясарубку мяса. Мяса было сырое, чырвонае, быццам з крывёю. Сяброўка мая аж здрыганулася, калі мне гэты сон расказвала.

Не далей як праз два дні майму мужу прысніўся сон таксама пра нашу дачку. Быццам ён убачыў, што ў нашай дачкі псуецца каўбаса, цэлыя скрукті заплеснелі, а яна збіраецца іх выкідаць. І мой муж пачаў лаяць дачку за такое марнатраўства.

А пасля мне прысніўся сон, быццам мы з мужам шукалі свайго цягніка і не маглі знайсці яго на станцыі, хаця стаяла навокал поўна цягнікоў, якія чакалі адпраўкі.

І вось наша дачка цяжка захварэла. Ці маглі гэтыя сны прадвяшчаць гэту хваробу?

**Лена**

Лена! Здаецца, ты не памыляешся. Усе сны гавораць аб непрыемнасцях. Толькі варанае мяса сведчыць аб поспеху. Сырое мяса бачыць ці есці — хвароба і смутак. Тваёй сяброўцы снілася, што гэта сырое мяса пракручвалі вы з дачкой. Вось табе і хвароба. Тая заплеснелая каўбаса таксама не прадвяшчала здароўя. А тыя цягнікі, якіх было шмат на станцыі, а вы з мужам шукалі свайго і ніяк не маглі яго знайсці, няўхільна прадвяшчаюць небяспеку.

Так што, Лена, лічы, што ты добра адгадала і сама гэтыя сны. Яны, відаць, былі на хваробу тваёй дачкі.

**АСТРОН**

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Сэрцайка-дарагулька! Вось вы, моладзь, пішаце ўсё пра каханне, ды так, быццам толькі вы ведаеце, што гэта такое. Ой, дзеткі, дзеткі, як вы памыляецеся! Усё было яшчэ да вас, а мо і лепш яшчэ, як цяпер у вас бывае.

Ну, хочаш, Сэрцайка, дык раскажу табе, як я, вясковая баба (сёння праўда, у горадзе жыву), са сваім мужам кахалася?! Пераехала я ўжо ў горад, але жыла ў старым будаўніцтве. Ведаеш, якія былі кватэры: пакойчык, куханька і калідор. Бацькі далі мне ўпрыдачу бабулю.

Бабуля спала ў пакоі, калі позна вечарам застукаў у дзверы мой каханы. Вядома, тады яшчэ не быў маім мужам. Я кінулася яму на шыю. Ехаў здалёк. Чакаў доўга гэтай сустрэчы. Не мыючыся, пачаў скідаць з сябе вопратку. У калідорчыку былі старыя дзверы, якія вялі на кухню. Тут у калідорчыку было нам найспакайней, бо найдалей ад бабулі. Я зачапілася за вушак, а ён так і падхапіў мяне на сябе. Паставіўшы адну нагу на падваконніку, я вілася, як кот, а ён мяне падтрымліваў з другога боку. Што гэта было за каханне! І сёння як успомню, дык дрыжыкі па целе ідуць. Я вішу ў дзвярах, а ён стаіць на падлозе і кахаемся, кахаемся без памяці.

Гэты першы раз я запамятала на ўсё жыццё, а чым вы сёння можаце пахваліцца?! Нагледзіцеся парнаграфічных фільмаў, а тады толькі імітуеце, калі патрапіце. Усё гэта і так штучнае і без сэрца робленае. З намі было інакш. Хачу, Сэрцайка, каб ты давяло гэта да ведама ўсім маладым.

**Хрысціна**

Хрысціна! Маладым я даводжу да ведама, як калісь кахалася Хрысціна. Не значыць гэта, што сёння паўсюдна зніклі вушакі і што моладзь бярэ ўзоры выключна з парнаграфічных фільмаў. Калі няма вушака можна зачапіцца і за што іншае. Важна, каб было нашто абаперціся.

Але прызнайся, даражэнькая, калі першы раз падыйшла ты да свайго мужа, вопыт мела ўжо багаты, праўда? Наколькі мне вядома, тыя першыя „разы" бываюць наогул скромныя, бо найчасцей нясмелыя. А ты што, з такім размахам увайшла ў палавое жыццё?! Ці проста ўмовы прымусілі цябе ўзлезці аж на вушак?..

Ты, Хрысцінка за сённяшнюю моладзь не хвалюйся. Яна сабе рады дасць. Знікаюць вушакі, на якія можна зачапіцца, але ж паяўляецца шмат якое новае абсталяванне, якое пры нагодзе можна выкарыстаць. Адна хвалілася, што найбольш яны з мужам любяць кахацца на... пральнай машыне. Пры адной умове — пралька мусіць быць уключана і праць. Во дзе вынаходніцтва! А ты кажаш, моладзь не патрапіць..

**СЭРЦАЙКА**

# КУХОННЫЯ ПАРАДЫ

## З РУСКАЙ КУХНІ

### Рыба, фаршыраваная грэцкай кашай

Прадукты: рыбіна вагою 1,5—2 кг (шчупак, судак, лешч), 200 г зваранай грэцкай кашы, 2 вараныя яйкі, 1 вялікая цыбуліна, шклянка смятаны, 3 лыжкі масла, 1 лыжка мукі, соль, 1 свежы агурок, а таксама некалькі квашаных яблыкаў для ўпрыгожання. Будзе гэта порцыя для 4—6 асоб.

Рыбіну аскрэбці, адрэзаць галаву і выпатрашыць, не разразаючы жывата. Памыць, выцерці сярэдзіну і пасаліць.

Яйкі абабраць і парэзаць на часцінкі. Цыбулю абабраць, дробна пасячы, падсмажыць на 1 лыжцы масла, каб быў светлазалацістым колер і перамяшаць з грэцкай кашай і нарэзанымі яйкамі.

Напоўніць атрыманым фаршам рыбіну. Пасыпаць яе мукою і падсмажыць на масле. Пераложыць яе ў ванначку і ўставіць на 5 мінут у вельмі гарачую духоўку.

Выняўшы рыбу з духоўкі, паліць яе смятанай і зноў уставіць у духоўку на наступных 5 мінут. У той час пару разоў паліваць рыбу атрыманым соусам.

Разам з соусам і падаваць рыбу. Асобна падаць свежыя агуркі і квашаныя яблыкі.

### Вараныя ракі з соусам

Прадукты: 60 штук вялікіх ракаў, 5—6 маленькіх цыбулек, галінак 15 зялёнай пятрушкі, некалькі галінак кропу, 1 лыжка віннага воцату, соль, перац, 4 літры вады.

Для соусу: паўшклянкі рыбнага ці мяснога булёну, шклянка кіслай смятаны, 50 г сцертай на тарцы сухой булкі, 1 лыжка масла, 1 пучок пасечанага кропу.

Цыбулю, зялёную пятрушку і кроп спаласнуць у халоднай вадзе.

Ракі паласкаць некалькі разоў пад кранам. Чысціць шчотачкай, ізноў спаласнуць і злажыць пластамі ў вялікай каструлі. Дадаць цыбульку, зялёную пятрушку і кроп.

У асобным посудзе закіпяціць 4 літры пасоленай вады. Заліць ёю ракі. Дадаць воцат.

Варыць пад пакрыўкай, на невялікім агні так, каб ракі закіпелі праз 10 мінут. Тады павялічыць агонь і даць кіпець ракам яшчэ 5 мінут. Патрасаць каструляй, каб ракі не прыгарэлі. Цяпер зменшыць агонь і, не дапускаючы да кіпення, трымаць ракі ў вадзе яшчэ мінут 15.

Масла растапіць на невялікім агні. Падсмажыць на ім сцертую на тарцы булку. Развесці булёнам і смятанай, дадаць пасечаны кроп і закіпяціць соус.

Звараныя ракі адцадзіць і пераложыць у вялікую талерку. Паліць іх часткай соусу; рэшту соусу падаць асобна ў соусніцы.

**ГАСПАДЫНЯ**

## АНЕКДОТЫ

- Не аддам я за цябе, хлопча, сваёй дачкі, бо ты дужа любіш заглядаць у чарку, - сказала маці нарачонай, Ганулі.

- Мама, магу нават прысягнуць, што як ажанюся, то чаркі і ў рукі не вазьму, - паабяцаў будучы зяць.

Пасля вяселля Ганулі пайшла праведаць маладых; зяць якраз збіраўся снедаць і наліў сабе куфель гарэлкі.

- Ты ж што гэта? Абяцаў... - гнеўна пачала дакараць цешча.

- Мама, - спакойна адказаў зяць, - гутарка ў нас была пра чарку, а гэта ж куфель.

* * *

Пачынаючая спявачка - прафесару:

- Як вы лічыце, ці мой голас варты чаго-небудзь?

- Вядома, што за дзіўнае пытанне! Пры пажары або караблекрушэнні яму цаны няма!

* * *

- Я думаю, мне было б адпачыць, - сказала прыгожанькая барменка сяброўцы. - Я выглядаю не найлепш.

- Чаму ты так вырашыла?

- Я прыкмеціла, што мужчыны пачалі правяраць рэшту, якую я ім даю.

* * *

Дырэктар банка па сакрэту сказаў свайму сябру, што доктар параіў яму як можна хутчэй выехаць за граніцу.

- Вось як! Скажы, дружа, гэта быў доктар медыцыны ці доктар юрыдачных навук?

* * *

Ідуць п'яны мужчыны дарогаю. Адзін і кажа:

- Дружа, што мне рабіць, на мяне слуп ідзе.

- Будзь разумны, абміні.

- Не, хопіць. Я ўжо два абмінуў.

* * *

Наведвальнік звярнуўся да доктара:

- Навошта лекары, калі выпускаецца столькі медыцынскай літаратуры?

- Каб хворы не памёр ад якой-небудзь друкарскай памылкі.

* * *

- Учора ў нас быў водаправодчык, але я баюся, што гэта не спецыяліст.

- Чаму?

- Адмовіўся ад пачастунку і не ўзяў на выпіўку.

Падборку зрабіў

**ЯСЕНЬ**





– Умаляю цябе, не знішчы толькі маёй прычоскі.

Ігар ПІМУШКІН

### РЭКАРДСМЕНЫ

У старой добрай Англіі жыў півавар па прозвішчу Гінес. Аднойчы гэтаму піваварy піва, відаць, моцна «ўдарыла» ў галаву. Бо аднойчы ён завёў вялікую кнігу, у якую пачаў запісваць розныя кур'ёзныя сусветныя дасягненні. Цяпер, у яго гонар, гэтую кнігу называюць «Кнігай рэкордаў Гінеса» і ў яе запісваюць усё новыя рэкорды.

Во, напрыклад, у іх там, за мяжой, нейкі дзівак «жабай» скакаў ажно мілю - і што вы думаеце? Запісалі ягоны сусветны «рэкорд» у тую кнігу. А таму дзіваку - усеагульны гонар і павага. Ці яшчэ такі выпадак быў: у легкавы аўтамабіль, накшталт нашага «Запарожца», умудрыліся ўціснуцца дваццаць чалавек. Зноў рэкорд! Ну, а рэкардсменам, зразумела, добрую грашовую ўзнагароду за рэкламу аўтамабіля. А яшчэ ў іх там адна танцавальная пара старалася трое сутак запар. І гэтае дасягненне таксама было занесена ў «Кнігу рэкордаў Гінеса».

А я вам во што скажу. У нас таксама ёсць сусветныя рэкорды. Калі мы пачнём запісваць усе нашыя дасягненні, дык нам не тое, што кнігі - нават бібліятэкі не хопіць. Возьмем, напрыклад, нашага слесара дзядзьку Колю. Ён ужо дваццаць гадоў як стаіць у чарзе на кватэру. І яшчэ яму стаяць у той чарзе немаведама колькі. Той, што «жабай» скача, хай паспрабуе пабіць гэты «рэкорд». Ці, скажам, токар наш, Валодзька, ужо больш як шэсць гадоў чакае чаргу на дзіцячы садок. Сын ягоны ў наступным годзе ў школу пойдзе. І мо якраз да выпускных экзаменаў атрымае месца ў садку. Чым не рэкорд?

А што ў нас робіцца ў грамадскім танспарце? Там, вядома, ездзяць адны толькі рэкардсмены. Бо ў гадзіны «пік» у адзін аўтобус столькі пасажыраў наб'ецца... Калі б тыя дваццаць чалавек, якія памясціліся ў гэты легкавік, у той аўтобус трапілі, дык праз нейкі прыпынак іх давялося б выносіць уперад нагамі.

Шырокае поле дзейнасці для рэкордаў і ў чыгуначнікаў. Я нядаўна ехаў у камандзіроўку транзітам праз Маскву. Да месца прызначэння дабраўся без асаблівых прыгод. А каб дамоў дабрацца, білет не змог купіць. Вось менавіта таму і прастаяў пяць сутак у маскоўскай чыгуннай касе на адной назе, бо другую не было куды паставіць. Столькі пасажыраў назбіралася... Во чаму тых дзівакоў, якія танцавалі трое сутак запар, я элементарна магу абставіць! Згодны?..

Уладзімір СКАРЫНКІН

### ПАЕЗДКА Ў ПОЛЬШЧУ

Звыкаюся і я з дарожным побытам  
- Сплю седзячы,  
ем толькі сухама,  
Хоць карыстаецца вялікім попытам  
У мінулых пань,  
чаго ў мяне няма.  
Зубамі больш ад холаду не ляскаю -  
Мы перайшлі на мытні Рубікон.  
Аўтобус наш пад Бялаю Падляскаю  
Ужо ляціць за ўдачай наўздагон.  
Увесь праход баўламі завалены,  
А ў іх дрылі, гарэлка, тапары,  
З вачэй сваіх бяссонніцы акаліны  
Счышчаюць важоры-гандляры.  
Смяюцца,  
быццам пабылі на бровары,  
Хоць доўгі шлях наперадзе яшчэ.  
Рухавая кабеціна два ровары  
У Польшчу з-пад Барані валачэ.  
Настрой узняўся нават  
у бухгалтараў,  
Бо як-ніяк -  
з іх кожны зараз пан.  
Паненкам паралонавых  
бюстгальтараў  
Урач вязе вялізны чамадан.  
Рыхтуйце злотыя,  
аўтааматары.  
Не стане на прыкол ваш лімузін,  
Ёсць у шафёраў і акумулятары,  
І імпартная гума,  
і бензін.  
Апоўдні недзе ў Плоцку або ў  
Быдгашчы  
Мы на базары раскладзём тавар.  
У нашы кашалькі,  
у нашы прыгаршчы  
Струменем цёплым пацячэ «навар».  
Падыдуць да прылаўка неэлітныя,  
Гаротныя паненкі і паны -  
І я свае тавары «дэфіцытныя»  
Узяць угавару за паўцаны.  
Цяпер тыповы прадстаўнік галоты я,  
Маёй інтэлігентнасці -  
гамон!  
Куплю ў Варшаве потым я на злотыя  
Вятроўку,  
джынсы і магнітафон.  
Такія ўжо гандлёвыя адносіны:  
Ва ўсіх карысць і выгада свая.  
Калі так пойдзе і далей -  
да восені  
І красці, пэўна, навучуся я.

*("Вожык", н-р 9/92)*

## РАЗЕТКА НА «Ж, З»

**Управа:** 1/ абарваны, з выцягнутай рукой, 2/ *ра* паміж *за*, 3/ адзінка фауны, 4/ вартасць са знакам мінус, 5/ Fe 6/ - /іначай дэфіс/, 7/ гумка як цукерак або часты занятак каровы, 8/ відаць яго на небе, калі на зямлі нешта гарыць. **Улева:** 1/вельмі вялікая палка, шост, 2/ гульня-пацеха /можна бакі ірваць/, 3/ кніга з двойкамі і не толькі, 4/ ужо не кветка і яшчэ не плод, 5/ савецкі «Фіат», 6/ паўсюдны колер раслін, 7/ гістарычнае племя Летувы, 8/ сігнал, які кліча на ўрок.

ядань




Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на разетку на «а» з 18 н-ра. **Управа:** ахвота, атлант, Афрыка, апетыт, апарат, Арарат, аратар, анкета. **Улева:** адклад, асвета, аплата, адрына, авечка, аварыя, атаман, аматар.

Кніжныя ўзнагароды высылаем Пятру Цілюльку з Саколкі і Аляксандру Дабчынскаму з Беластока.



**„Niwa", ul. Suraska 1, 15—950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210—33**
**Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.**

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Віталь Луба (в.а. галоўнага рэдактара), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał upływa 20 sierpnia 1992 r.

2. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100 % i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.